—Людзьмі звацца!
Янка Купала

# ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
4
СНЕЖНЯ
1992 г.
№ 49 (3667)

ВЫХОДЗІЦЬ з 1932 г.

КОШТ — 1 рубель. (Па падпісцы — 10 кап.)




Памятны крыж героям паўстання. Вёска Семежава. Лістапад 1992 г.
Матэрыялы аб святкаванні 72-х угодкаў Слуцкага збройнага чыну на 3-й старонцы.

Фота У. КАРМІЛКІНА.

ЛІМАЎСКІЯ ДЫЯЛОГІ

# МЕТАФІЗІКА БУДУЧЫНІ

XX стагоддзе, шаноўныя спадары і спадарыні, сыходзіць... Так-так, тое стагоддзе, што ўпісалася ў гісторыю чалавецтва страшэннымі злачынствамі супраць чалавечнасці і глабальнымі зломамі чалавечага духу, — сыходзіць... А што мы — ці не зацыкліліся мы, шаноўныя спадары, на пошасці цяпершчыны, ці не запрадалі душы дробязным выгодам і выгодкам, на здабыццё якіх неашчадна скіраваны аграмаднейшыя эмацыянальныя і фізічныя высілкі?

Ці пра тое багацце дбаем?

Дбаць самая пара пра будучыню, што ненавязліва, але няўмольна стукаецца ў дзверы нашых дамкоў, дзе мы наіўна летуценім схавацца ад прышласці. І не трэба, спадары, ганіць тую самую «перабудову», бо гэта была не проста перабудова, гэта быў распачатак скону XX веку. Ён, гэты век, канаў і працягвае канаць цяжка, не хочучы, адчайна хапаючы новых ахвяр. Аднак збег часу пайшоў на гадзіны і пара, ужо самая пара ўпісваць нейкія словы ў памінальныя стужкі на тле XX стагоддзя.

XX стагоддзе канае і фатальна кане ў часе, нарадзіўшы стагоддзе XXI. Што гэта будзе за стагоддзе, чым стане адметным — рамантычныя на сёння пытанні. Для нас, спадары, сёння дастаткова ведаць, што сведкамі і патэнцыяльнымі ахвярамі новай эры належыць быць нам.

Зрэшты, ёсць і такая тэасафічная тэорыя, згодна якой мы ў прынцыпе пражылі ўжо будучае — у тым сэнсе, што будучае ёсць рэальнасць, якая ўжо адбылася — але ўперадзе. Так чалавек, адзіны носьбіт і спраўны выканаўца свае біяграфіі, ужо пражыў усё, што мае ў ягоным жыцці быць. Так і грамадства няспынна сягае ў будучыню, якая ўжо дзесь там адбылася... Натуральна, грамадства мусіць клапаціцца аб прадбачанні, зразуменні таго, што наперадзе, — каб мужна прыняць няўхільную логіку адвечнага кону. Сам акт асэнсавання будучыні ёсць ці не першы акт яе, будучыні, пражыцця. Таму глядзець наперад ніколі не рана.

Калі зыходзіць век, чалавецтва аб'ектыўна мысліць і ўспрымае рэчаіснасць у катэгорыях канца свету. І гэта добра. Прынамсі, апакаліпсічнае светаадчуванне больш адпаведнае бясконцаму драматызму быцця. Аднак апакаліпсізм робіць людству дрэнную ласку, калі па інерцыі запаноўвае ў настроях і спараджае трывалы грамадскі скепсіс і бязвер'е. Зазвычай так адбываецца напрыканцы стагоддзя: нагадаем хаця б стагоддзе мінулае, дэкаданс культуры і мастацтва... Тады, стагоддзе таму, цывілізацыю вывела са скепсісу само ж мастацтва, хоць, зрэшты, яму не пад сілу аказалася адвесці войны і зломныя рэвалюцыі.

Мастацтва XIX стагоддзя, акрамя паслугоўвання свайму часу, у галоўным спрагназавала рэальнасць XX веку: «Бесы» Дастаеўскага — чым не раманадшыфроўка таталітарнай будучыні? А «Спадар з Сан-Францыска» І. Буніна — чым не сцэнар сучаснага драматычнага лёсу еўра-амерыканскай цывілізацыі? А Багдановічава «усе мы, разам, ляцім да зор...», — чым не інтуіцыя агульнай духоўнай сутнасці людзей, да якое мы цяпер даходзім шляхамі ўсходніх эзатэрыкаў?

Ці здольна сучаснае мастацтва зрабіць такія ж прадбаччыя метафізічныя прагнозы на будучыню? Для сябе гэтае пытанне сёння мы можам перафармуляваць больш прымітыўным чынам: наколькі мастацтва можа нас суцешыць і абнадзеіць? Але веру, надыдзе час, калі пры дапамозе мастацтва — у тым ліку і беларускага, і, можа, у першую чаргу беларускага, — мы зможам трывала ўзбіцца на шлях духоўнага вызвалення, які, як вядома, вядзе ў вечнасць...

Такая вера, прынамсі, замацавалася ва мне пасля дыялогу (гэтыя радкі пішуцца па перачытанні тэксту) з мастацкім крытыкам, мастацтвазнаўцам, выкладчыкам гісторыі заходнееўрапейскага мастацтва Беларускай акадэміі мастацтваў Яўгенам ШУНЕЙКАМ, сябрам сойму БНФ «Адраджэнне», сябрам Беларускай каталіцкай грамады.

**Ю. З.**

Дыялог Юрася ЗАЛОСКІ з Яўгенам ШУНЕЙКАМ чытайце на стар. 5, 12, 14—15.

# Кола Дзён

З тыдня ў тыдзень г. г. у змесце «Кола» змагаюцца два жанры: навіны і **навіны.** Навіны асабліва заўважна дамінавалі на зыходзе гарбачоўскай шасцігодкі: безліч «лёсавырашальных» падзей за адны суткі, развітанне са сталінізмам, драма абнаўлення і да т. п. Але год таму, калі чальцы палітычнага кіраўніцтва трох сумежных краін вядомым актам у Белавежскай пушчы фінішавалі перабудову — навіны ператварыліся ў **навіны** — інфармацыю, якая адлюстроўвае ўжо не мітрэнгі «новага мыслення» ў свеце і не палітычную эротыку ў Крамлі, — а мусіць быць адбіткам нашае, тутэйшае рэчаіснасці.

Ці атрымаўся такі адбітак — на ТБ, радыё, у газетах, у «Коле»? Ці могуць быць інфармацыйным люстрам рэспублікі ўбоства «Нікі», «Панарамы», мужна-вандэйскі стыль перадач радыёстанцыі «Сталіца», навіны газет — па большасці «сусветнага гучання»?.. Парадаксальная рэч, але хібы інфармсферы наўрад ці выправіць якое-небудзь новае падміністэрства інфармацыі: дзейнасць аднаго-адзінага ўласнага карэспандэнта тэлебачання ці газеты — пры Белым Доме, напрыклад, ці ў еўрапейскіх краінах — пераважыць «журналістыку» ўсіх міністэрстваў журналістыкі...

**26 ЛІСТАПАДА**

На сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь паведамлена пра ноту Злучаных Штатаў Амерыкі аб антызаконным адхіленні рэферэндуму ў рэспубліцы. Выявілася, што нота была перададзена ў Міністэрства замежных спраў паслом ЗША Д. Суорцам яшчэ 5-га лістапада. У ноце выказана «шкадаванне» з нагоды рашэння Вярхоўнага Савета, а таксама «заклапочанасць» ігнараваннем у рэспубліцы вынікаў свабоднага волевыяўлення значнай часткі насельніцтва.

**27 ЛІСТАПАДА**

Вярхоўны Савет Таджыкістана, займаючыся фармаваннем новай палітычнай сістэмы краіны, адмовіўся ад прэзідэнцкага кіравання і запыніўся на парламенцкім уладкаванні рэспублікі.

**28 ЛІСТАПАДА**

Паўнамоцныя прадстаўнікі Рэспублікі Беларусь і Парагвая падпісалі ў Нью-Йорку пратакол аб устанаўленні дыпламатычных адносін паміж дзвюма краінамі.

У друку змешчаны Законы Рэспублікі Беларусь «Аб абароне» і «Аб Узброеных Сілах Рэспублікі Беларусь». Узброеныя Сілы рэспублікі будуць арганізаваны паводле прынцыпу кадравай арміі і камплектавацца на аснове ўсеагульнага воінскага абавязку і добраахвотнага паступлення на ваенную службу па кантракту. Зразумела, што дамінуючым у абароне рэспублікі застанецца ўсеагульны воінскі абавязак, а гэта значыць, што існуючая сістэма ваенна-патрыятычнага выхавання, пачынаючы са школы, істотна не зменіцца.

**29 ЛІСТАПАДА**

У Менску, у капліцы Менскай грэка-каталіцкай абшчыны, адбылося набажэнства ў гонар слуцкіх паўстанцаў 1920-га года.

**30 ЛІСТАПАДА**

Рашэннем урада рэспублікі амаль у дзесяць разоў павялічана кватэрная плата — яна стала 1 рубель 32 капейкі за адзін квадратны метр жыллёвай плошчы.

Прайшла другая Кансультатыўная нарада дэмакратычных сіл Беларусі, у якой прынялі ўдзел Партыя народнай згоды, Аб'яднаная дэмакратычная партыя Беларусі, Беларуская Сялянская партыя, БСДГ, Беларускае згуртаванне вайскоўцаў, Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны. Выпрацоўвалася стратэгія непарламенцкай апазіцыі ва ўмовах забароны на правядзенне рэферэндуму.

**1 СНЕЖНЯ**

Старшыні творчых саюзаў і фондаў рэспублікі, што згуртаваны ў Канфедэрацыю творчых саюзаў і культурных фондаў Рэспублікі Беларусь, звярнуліся да Вярхоўнага Савета з просьбай вызваліць іх ад уплаты існуючых падаткаў, за выключэннем чарнобыльскага.

Лідэрам парламенцкай апазіцыі ў Сейме Літоўскай Рэспублікі абраны экс-старшыня Вярхоўнага Савета рэспублікі В. Ландсбергіс. Апазіцыя ўяўляе сабою згуртаванне апазіцыйных фракцый у кааліцыю Нацыянальная згода (налічвае каля 50-ці дэпутатаў сейма).

**2 СНЕЖНЯ**

Група творчай і навукова-тэхнічнай інтэлігенцыі Беларусі (усяго 75 чалавек) выступіла з заявай у сувязі з рашэннем Вярхоўнага Савета аб забароне рэферэндуму. У заяве выказана заклапочанасць «пагрозай рэанімацыі таталітарнай сістэмы», дэпутаты закліканы да перагляду пытання пра рэферэндум — каб ён стаўся мірным, канстытуцыйным шляхам да карэннай палітычнай рэформы.

**ПАРЛАМЕНЦКІ ДЗЁННІК**

# ПА-БАНКУ

Не будзе перабольшаннем сказаць, што Закон аб банках і банкаўскай дзейнасці, змены ў якім Вярхоўны Савет пачаў разглядаць на мінулым тыдні, — адзін з найгалоўных у павестцы дня. Банкі — гэта свайго роду сістэма звароту крыві ў жывым арганізме эканомікі. Нездарма поўную перамогу над «класам буржуазіі» (і над эканомікай) бальшавікі атрымалі толькі пасля нацыяналізацыі ўсіх банкаў...

Папраўкі да існуючага закона аб банках прадставіў Старшыня Нацыянальнага банка Беларусі С. Багданкевіч. Па-сутнасці, размова йшла аб змене цяперашняй фінансава-крэдытнай палітыкі ў рэспубліцы. Сэнс унесеных прапаноў можна звесці да неабходнасці надаць Нацыянальнаму банку выключныя паўнамоцтвы. У прыватнасці — права ўмешвацца ў аператыўную дзейнасць камерцыйных банкаў, рашаць іх лёс, рабіць інспекцыі на прадпрыемствах і ў арганізацыях з правам штрафных санкцый, манаполія знешнеэканамічнай фінансавай дзейнасці і г. д. І ўсё гэта, канечне, у імя стабілізацыі цэн і грашовай адзінкі ў рэспубліцы.

Па словах прэзідэнта Асацыяцыі камерцыйных банкаў Беларусі Я. Купчына, папраўкі да закона накіраваны на ўмацаванне манаполіі нацбанка і фактычнае адхіленне Вярхоўнага Савета ад фарміравання грашова-крэдытнай палітыкі.

Апанентам Багданкевіча выступіў, па зразумелых прычынах, і старшыня праўлення Знешэканамбанка Беларусі Г. Алейнікаў. (Заснавальнікам банка з'яўляецца, у прыватнасці, Мінфін рэспублікі. (Ён падкрэсліў, што жорсткая цэнтралізаваная сістэма нічога не дала нам у мінулым. Ва ўсіх цывілізаваных краінах існуе двухузроўневая сістэма, пры якой цэнтральныя банкі толькі рэгулююць і кантралююць — з дапамогай эканамічных механізмаў — дзейнасць камерцыйных банкаў, але не займаюцца дробязнай апекай і тым больш не займаюцца самі камерцыяй.

З тэзісам С. Багданкевіча, што банкі знаходзяцца па-за палітыкай, дэпутаты не пагадзіліся. Ды й сам Старшыня НБ фактычна абверг уласны тэзіс, прызнаўшы, што правядзенне фінансавай палітыкі ў далейшым патрабуе, магчыма, ...«часткова адмовіцца ад суверэнітэту» рэспублікі. Справа ў тым, аказваецца, што Беларусь знаходзіцца ў моцнай эканамічнай залежнасці ад Расіі. (Дысбаланс у гандлі з Расіяй складае сёння 91 мільярд рублёў). Паводле выразу Г. Алейнікава, нацыянальныя валюты вымушаны будуць круціцца, як спадарожнікі, вакол рубля.

С. Шушкевіч нагадаў, што «частковага адступлення» ад прынцыпаў не бывае і прапанаваў задумацца, ці была б Беларусь у лепшым эканамічным стане, калі б яна была на правах расійскай вобласці. Дэпутаты, аднак, пажадалі, каб спікер парламента выступіў з грунтоўным дакладам аб перспектывах міжбанкаўскага пагаднення і рублёвай зоны, а таксама аб захадах кіраўніцтва рэспублікі ў бліжэйшы час. Прадстаўнікі дэпутацкага аб'яднання «Беларусь» патрабавалі ад Шушкевіча неадкладна ўступіць у перамовы з Ельцыным і Краўчуком па пытанні ўзаемаразлікаў.

У ходзе дыскусіі складвалася ўражанне, што крытычны стан у эканоміцы і фінансах многія дэпутаты хочуць выкарыстаць у якасці казырнай карты ў палітычнай гульні, каб адкруціць сітуацыю назад. Відавочны факт, што рынкавая банкаўская сістэма не можа існаваць у нерыначнай эканоміцы, падвёў некаторых дэпутатаў да арыгінальнай высновы: «не трэба рыначнай эканомікі».

Пытанне аб банках было вернута ў планава-бюджэтную камісію ВС для падрыхтоўкі яго да паартыкульнага прыняцця змен у закон.

На пачатку гэтага тыдня, прыняўшы ў першым чытанні Закон аб пажарнай ахове (пры яго абмеркаванні часта ўспаміналіся ўрокі мінулага засушлівага лета), дэпутаты перайшлі да карпатлівага шматгадзіннага ўнясення змен у Кодэкс законаў аб працы. Акрамя таго, па запатрабаванні парламентарыяў, тлумачэнні адносна нядаўняга павышэння цэн даў Старшыня Дзяржэканамплана Беларусі С. Лінг. Па яго словах, на гэты крок урад вымушаны быў пайсці з-за павышэння цэн на нафтапрадукты з боку Расіі. Віцэ-прэм'ер падкрэсліў, што на прадукты харчавання па-ранейшаму захоўваюцца дзяржаўныя датацыі. А значыць, трэба разумець, новыя цэны — яшчэ не мяжа.

**Віталь ТАРАС.**

# БУДЗЕМ З ПАШТОЎКАМІ

**Не буду, шаноўныя чытачы, апісваць усе мае і супрацоўніка Слонімскай райгазеты В.Валадашчука клопаты, хваляванні, наведванні кабінетаў кіраўнікоў-бюракратаў, каб дапамаглі выдаць гэтыя дзве прыгожыя беларускія паштоўкі. Два гады мы «абівалі парогі»: любы варыянт нас задавальняў, абы толькі паштоўкі пабачылі свет.**

**І вось, дзякуй Богу, мара наша збылася. А дапамагло нам Слонімскае народнае прадпрыемства «Альбярцін», якім кіруе народны дэпутат Беларусі А. Шаўнін.**

**Сто тысяч паштовак (30 тысяч «З Новым годам» і 70 тысяч «З калядкамі») ужо аддрукавана. Усе яны адпраўлены ў Мінск, таму хутка з'явяцца ў продажы. Пазней будуць надрукаваны яшчэ 100 тысяч адпаведнікаў. Так што — будзем з паштоўкамі, са сваімі беларускімі, нацыянальнымі паштоўкамі.**

**Да сказанага вышэй хочацца дадаць, што задумку нашу дапамог ажыццявіць слонімскі мастак Я. Гіль.**

**Сяргей ЧЫГРЫН.**
г. Слонім.




# СТАБІЛЬНА І НЕЧАКАНА...

## Фестываль «Беларуская музычная восень» завяршыўся

Дзе тая «верхняя кропка», з якой можна было б агледзець панараму музычнай восені? Яна ж традыцыйна прайшла па ўсіх буйных гарадах, не абмінула мястэчкі, зазірнула і ў тыя куткі, што зусім аддалены ад канцэртнага жыцця. Затое ў Мінску мы пазіраем на восеньскую музычную справу зблізу, і прыдзірлівае наша вока рыхтуецца заўважыць недахопы ў арганізацыі фестывалю ці яго афішы... Так бывае, так было. Але не сёлета. Бо сёлетні фестываль, у поўным сэнсе міжнародны і ў лепшым сэнсе традыцыйны, паказаў, што добрая традыцыйнасць спалучае ў сабе і ўстойлівасць вартаснага, і настроенасць на творчыя нечаканасці.

Сапраўдны ажыятаж выклікаў прыезд С. Рыхтэра. Для многіх наведванне ягонага дзённага канцэрта, які папярэднічаў афіцыйнаму адкрыццю «восені», было жыццёва неабходным рытуалам. Але патрапілі на канцэрт і сапраўдныя знаўцы фартэпіяннага мастацтва. З сімпатыяй да Майстра, яны дзівіліся яго палемічнай інтэлектуальнай трактоўцы Ф. Шапэна і захапляліся А. Скрабіным... Тыя ж знаўцы абмяркоўвалі ўвечары новы твор У. Кандрусевіча — сімфонію «Плач перапёлкі», знаёміліся з далікатным граннем італьянскага піяніста Д. Марыоці (4-ты Канцэрт Л. Бетховена), «ласаваліся», нібы цукеркай, гучаннем «Італьянскага капрычыо» П. Чайкоўскага (Акадэмічны сімфанічны аркестр Беларусі, дырыжор В. Дуброўскі).

А колькі захаплення было ад канцэрта жыновічаўцаў пад кіраўніцтвам М. Казінца з салістам З. Саткілавам! Выдатны тэнар спяваў свайго роду шлягеры, сярод якіх самыя папулярныя рускія рамансы «Вячэрні звон», «Ямщик, не гони лошадей», «Я вас любил» і інш. І рабіў гэта надзвычай абаяльна, ладзячы «імяніны сэрца» для шматлікай публікі, дый для аркестра, які цудоўна суправаджаў свайго партнёра. І сам выглядаў гожа з салісткамі Л. Рыдлеўскай (цымбалы) ды С. Лясун (баян).

Цудоўны творчы ансамбль утварыўся ў зале на Залатой Горцы, калі выступала маскоўская спявачка Н. Герасімава ў супольнасці з беларускімі артыстамі — Ю. Гільдзюком (піяніст зрабіў прыемнае ўражанне як чулы канцэртмайстар) ды Г. Забарам (кларнет). Гучалі творы Шуберта, Глінкі...

Канцэрты харавых калектываў, такіх розных, робяцца добрай адзнакай філарманічнай афішы. Вось і цяпер: новая сустрэча з Акадэмічным народным хорам імя Г. Цітовіча (мастацкі кіраўнік М. Дрынеўскі),

**ЛІМАЎСКІЯ ДЫЯЛОГІ**



**Юрась ЗАЛОСКА — Яўген ШУНЕЙКА**

# МЕТАФІЗІКА БУДУЧЫНІ



**Ю. З.** Яўген, мяне як журналіста—даследчыка нацыянальнай культуры з пэўнага часу заінтрыгавала такая акалічнасць. Гісторыя беларускага Адраджэння XIX—XX стагоддзяў сведчыць аб тым, што «рухавікамі» адраджэнскага руху, яго ідэолагамі і практыкамі па большасці былі беларусы каталіцкага веравызнання. Паўлюк Багрым, Ян Чачот, Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Уладзіслаў Сыракомля, Кастусь Каліноўскі, Адам Гурыновіч, Францішак Багушэвіч, Карусь Каганец, Ядвігін Ш., Цётка, Янка Купала, Алесь Гарун... Католікамі былі таксама браты Луцкевічы, Вацлаў Ластоўскі, Фердынанд Рушчыц, Язэп Драздовіч, Пётра Сергіевіч... Во які доўгі выходзіць шэраг, а шмат яшчэ прозвішчаў застаецца неназванымі. Відаць, і сярод сучасных адраджэнцаў будзе багата католікаў. Як на тваю думку, чым абумоўлена такая заканамернасць беларускага адраджэнства, што актыўнымі і таленавітымі яго дзеячамі былі менавіта беларусы-католікі?

**Я. Ш.** Прозвішчы карыфеяў нашага Адраджэння ўсё кажуць самі за сябе. І мне, католіку-беларусу, надзвычай усцешна, што духоўнае выхаванне, асвечанае хростам, чытаннем Катэхізіса, наведваннем касцёла, Першай Камуніяй і іншымі таемствамі хрысціянскай веры лацінскага абраду, спрыяла менавіта беларускаму нацыянальнаму самавызначэнню. Калі тых людзей аб'яднаць разам, падкрэсліўшы іх канфесійную прыналежнасць, дык збіраецца надзвычай моцная і згуртаваная парафія, якая найлепшым чынам пераконвае, што беларушчына і каталіцызм — гэта паняцці, што ўзаемна не выключаюць адно другога. Я б да гэтай шаноўнай грамады далучыў яшчэ Адама Міцкевіча, Станіслава Манюшку, Міхала Клеафаса Агінскага, Тадэвуша Касцюшку, Ігнація Дамейку і іншых слынных асоб, якіх трывала «прыўлашчылі» іншыя культуры. Нам трэба без сумненняў прызнаць каталіцызм неад'емнай часткай нашай гісторыі і культуры, бо і дагэтуль, на жаль, у пэўнай часткі беларусаў-некатолікаў ёсць вядомы недавер да каталіцызму, як да варожай беларусам канфесіі і духоўнай сілы. Гэты недавер замацаваўся ў памяці з пачутага, прачытанага, тлумачанага ў савецкіх атэістычных крыніцах. Прадумаўшы аргументы «запалохвання», хутка становіцца зразумелым, каму ў першую чаргу так не даспадобы рымска-каталіцкае веравызнанне як антаганістычнае і непрымальнае на гэтай зямлі, —самазванаму «Трэцяму Рыму», якому яно ніколі не падпарадкоўвалася, хоць і йшло насустрач, аднак жа **насуперак** яго маніякальнай ідэі сусветнага месіянскага апанавання.

Канфесійная мяжа на беларускай зямлі насычана незлічонай крывёю і пакутамі нашага народа. На жаль, яшчэ не сцерліся з масавай свядомасці прыдбаныя стагоддзямі каланіяльнай залежнасці заганныя звычкі паслухмянага падпарадкавання самым абсурдным і амаральным загадам «зверху», «з цэнтру». Многія неўласцівыя беларускаму менталітэту дэмагагічныя ідэі, думкі, высновы, прадыктаваныя антыбеларускімі інтарэсамі і падкінутыя з чужых вуснаў, яшчэ часта падхопліваюцца без одуму і ўспрымаюцца як свае ўласныя... Канфесійнае згуртаванне католікаў-адраджэнцаў — вельмі актуальны і важкі аргумент у магчымых спрэчках на тэму, што бліжэй і «менш небяспечна» для беларусаў — Масква ці Рым.

Трэба падкрэсліць, што такое сузор'е талентаў і змагароў за жыццё беларускасці — эпахальная з'ява канца XVIII — пачатку XX стагоддзя. Усчалася амаль што безнадзейная барацьба за незалежнасць, супраць імперскага прыгнёту, дэнацыяналізацыі і скасавання правоў чалавека. Нягледзячы на ўсе пачварныя сродкі тэрору, дыскрымінацыі і генацыду, якія выпрабоўвала расейскае самаўладдзе пасля падаўлення паўстання, на беларускай глебе ізноў і ізноў праз путы і ланцугі прарываўся ўздым самасвядомасці і мацавалася вера ў аднаўленне нацыянальнай і дзяржаўнай незалежнасці — як далёкай ідэі, але неўнікнёнай у будучым рэальнасці. Відаць, у жалобны час нацыянальнай трагедыі, калі навокал мана, глум, здрадніцтва, калабарацыянізм, Усявышні дае народу выратавальную моц, што канцэнтруецца ў абраных асобах, адораных талентам і адзначаных самаахвярнасцю. Чым болей пакут і безнадзейнасці, тым больш моцны, як з металу спрэсаваны дух адраджэнцаў. Да іх пачынаюць цягнуцца астатнія.

Нацыянальныя волаты, якіх мы нагадалі, нарадзіліся ў каталіцкім асяроддзі невыпадкова: яно было выразна апазіцыйным да імперскай палітыкі «всемилостливейших государей» (нездарма ў ім у тыя часы паўзнікла нямала таемных таварыстваў, ідэалогіяй якіх была ідэя вызвалення свае Радзімы). Пад трывожныя гукі аргана нацыянальная душа не магла заснуць, у той час як «малінавы звон» густым ялеем ахінаў, суцішаў і расслабляў мяцежныя думкі і памкненні. Я не збіраюся абражаць нічыіх сённяшніх рэлігійных пачуццяў, я толькі спрабую зразумець аб'ектыўную перавагу ў нашым каланіяльным мінулым фермента заходнехрысціянскай еўрацэнтрычнасці... Не цяжка здагадацца, якую афіцыйную ролю выконвала праваслаўе з канца XVIII ст. на анексіраваных расійскім царызмам тэрыторыях Беларусі, — яно праводзіла каланіяльную палітыку ў духоўнай сферы. Жудасная, нехрысціянская расправа з грэка-католікамі, санкцыянаваная імперскай дзяржавай і падтрыманая яе вернай прыслужніцай —царквой, Свяшчэнным Сінодам і праваслаўнымі іерархамі, адхінула залачоныя апраткі і стала бачна махіна пераўтварэння блізкіх, суседскіх народаў — нібы «сваяцкіх», «из единого изначального племени», як сцвярджала імперская гісторыя, — у прыніжаных і затурканых белых нявольнікаў расійскага царызму, які і на Пана Бога спрабаваў увесці сваю манаполію.

Праз гвалт на доўгі час знікла беларускае уніяцтва, яго вернікі з прымусу перайшлі хто ў праваслаўе, хто ў каталіцызм. Каталіцызм, аднак жа, немагчыма было «выкарчаваць» аналагічным чынам, не разбурыўшы пры гэтым «богообразный» фасад перад моцнымі і ўплывовымі заходнееўрапейскімі дзяржавамі. Тагачасны каталіцызм на Беларусі выступіў альтэрнатывай, сродкам абароны сваёй духоўнай незалежнасці ва ўмовах наступу імперыі. Калі немагчыма было пагадзіцца са злачынствамі ад імя дзяржаўнага закона, пад спічастымі скляпеннямі касцёлаў беларус мог уратавацца духоўна, захаваць недатыкальнай сваю мучаніцкую душу. Селяніна — героя верша Ф. Багушэвіча — стаць католікам змусілі, вядома, не нагайкі вайскоўцаў («як хрысцілі мяне казакі з рускага ды ў палякі»), але свядомае чалавечае вырашэнне свайго духоўнага лёсу, выбар. Адвяргаючы гвалт над сваёй асобай, селянін пераходзіць у іншую канфесію, выбіваючыся такім чынам хаця б з духоўнага падпарадкавання дэспатычнай уладзе. А калі спалены духоўныя масты нявольніцтва, застаецца адзіны шлях — шлях змагарства.

Усе лідэры бунтароў, паўстанцаў, касінераў тых часоў былі пераважна з каталіцкага асяроддзя. Каталіцызм падзяліў іх пакутную долю... Разам з царскай палітыкай шыбеніц, расстрэлаў, арыштаў, катоўняў, рабунку маёмасці і іншых сродкаў «умиротворения польских мятежей» паступова парушалася і ўсходнеканфесійная мяжа. Дзе толькі можна было, праваслаўныя купалы-«цыбуліны» замянялі шпілі каталіцкіх храмавых вежаў, цэрквы-«мураўёўкі» — стандартныя, як наглядчыкі за парадкам ва уніформе, — множыліся па ўсёй Беларусі. Але... разам з інсургентамі ў кайданах і іх сем'ямі далёка на ўсход рушыў і каталіцызм. Парафіяльныя касцёлы, капліцы, могілкі, што ўзніклі ажно ў Табольску, Уладзівастоку, нават на Сахаліне, пазначылі гэты крыжовы шлях пакутнікаў, што былі з Богам і ў духоўнай свабодзе да канца. Вечны ім спакой!.. У іх цярпенні і веры— незнішчальнасць духу беларускага Адраджэння, бо ў рэшце рэшт перамагае не той, хто нішчыць і знявольвае, а той, хто пакутуе і ахвяруецца.

У драматычным супрацьстаянні з палітыкай русіфікацыі краю католікам было значна прасцей зразумець спачатку сваю нярускасць, а затым з тутэйшага, мужыцкага, «польскага» вызначыць сябе неўзабаве беларусамі, г. зн. самастойным і паўнавартасным народам сярод еўрапейскіх суседзяў.

**Ю. З.** ...Я, дарэчы, слухаючы цябе, нечакана падумаў вось пра што. Гэта пэўны парадокс: пашырэнне каталіцызму ў свеце мо й больш маштабнае (акрамя Еўропы—Паўднёвая, Цэнтральная і Паўночная Амерыка, Афрыка, Аўстралія), чым распаўсюджанасць праваслаў'я, аднак каталіцызм, ведучы да Бога, не так адчувальна ўплывае на нацыянальнае аблічча — мову, псіхалогію — вернікаў. Я нават схіляюся лічыць рысай каталіцызму прэзумпцыю самаітасці вернікаў. Іншая рэч, што, так бы мовіць, рэгіянальныя каталіцызмы могуць і пасягаць на нацыянальны складнік чалавечай душы, асабліва калі гэтая канфесія набывае характар дзяржаўнай рэлігіі: чым не прыклад палітыка польскага каталіцызму адносна вернікаў-беларусаў?..

**Я. Ш.** ...У процівагу да беспамерна-імперскага Усходу, што не без актыўнай дапамогі дзяржаўнай рэлігіі знівеляваў і растварыў у сваёй вялікарускай усёз'яднальнасці мільёны «инородцев», каталіцкае яднанне з народамі Заходняй Еўропы ніколі не ставіла беларусаў (колішніх ліцьвінаў) перад італьянцамі, французамі, іспанцамі, немцамі ў якасці «меншых братоў», «сапсаваных усходам лацціннікаў» і да т. п. Нават у сваім сучасным абсечаным, міграцыйна-выпампаваным стане Беларусь па насельніцтве і тэрыторыі нічым не ўступае Аўстрыі, Бельгіі, Венгрыі і іншым развітым еўрапейскім краінам. Адзіны духоўны цэнтр для католікаў краін Еўропы — Ватыкан — аніяк не абавязвае, каб усе католікі станавіліся «італьянцамі», хоць малітоўная латынь, што пачынаецца для кожнага верніка шчырым зваротам «АВЭ МАРЫЯ, ГРАЦЫЯ ПЛЭНА» («Вітай, Марыя, поўная ласкі»), аднолькава чулая як для сэрца рымляніна, гэтак і для мюнхенцаў, пражан ці менчукоў. Зрэшты, і само паняцце каталіцызм перакладаецца як «агульналюдскі», міжнародны і не можа манапольна належаць толькі італьянцам альбо палякам, бо ўсе народы са сваёй роднай мовай роўныя перад Богам, а манія нейкай выключнасці, месіянскасці, падаецца, ужо не ад хрысціянства. Іншая рэч — культурная італьянізацыя, якая на працягу стагоддзяў шырылася ў каталіцкім свеце, даўшы такія вялікія эпохі канчатковага фарміравання заходнееўрапейскіх нацыяў, як Рэнесанс і Барока. Пасля велічных духоўных, эстэтычных здабыткаў, якія глыбока запалі ў душу, адклаліся ў генетычнай памяці, замацаваліся ў ментальнасці, ужо ніякая імперская палітыка не магла зліквідаваць, растварыць, перарабіць на чужы капыл тыя еўрапейскія народы, якія на многія стагоддзі па розных прычынах страцілі сваю незалежнасць: беларусаў, украінцаў, чэхаў, славакаў, венграў, харватаў, славенцаў і іншых, хто цалкам альбо часткова прыняў каталіцызм.

І ўсё ж, нягледзячы на ахвяры і пакуты каталіцызму на нашай зямлі, нельга абсалютызаваць яго значэнне для нацыянальнага самавызначэння. Ці ж не пра тых паноў-католікаў, што пачалі ў касцёле адвяргаць мову, якой азваўся беларус, пісаў Янка Купала? Да сёння некаторыя іх неўгамонныя паслядоўнікі ніяк не могуць супакоіцца. З другога боку, цалкам не зрабіліся «рускімі» і праваслаўныя беларусы, хто хадзіў пакланяцца ў царкву найперш Пану Богу, а не ўладам.

Як бы ні складаліся лёсы рэлігійнага жыцця на Беларусі і як бы ні шкодзілі яму авантурныя палітычныя маніпуляцыі, наш народ захаваў у сваім сэрцы Веру, Бога, Сумленне, а гэта ёсць лепшае, што цепліцца ў кожным чалавеку, да чаго ён духоўна цягнецца і праз што бясконца самадасканаліцца. Калі мы зараз прыкладаем намаганні, каб трывала замацаваць незалежнасць, дзяржава павінна быць падкрэслена талерантнай і спрыяльнай да ўсіх канфесій, што спрадвеку існавалі на нашай зямлі, не вылучаючы ніякай да статуса «асаблівай», «абранай», «выключнай», бо гэта супярэчыць нашаму нацыянальнаму духу і гістарычным традыцыям. Хай жа беларуская шматрэлігійнасць і шматканфесійнасць, якая раней, у каланіяльныя часы, магла здацца нашым слабым месцам, прычынай раз'яднання, становіцца зараз нашай перавагай, моцным месцам, фактарам духоўнай кансалідацыі. Бо Бог — адзіны, і гэта мо наймацнейшы кансалідант народа. Добра, калі да Бога вядзе шмат шляхоў і можна выбраць з іх свой.

**Ю. З.** Я ведаю, што ты, Яўген, гадаваўся ў Гродне, у каталіцкай, але спольшчанай на той час сям'і. Аднак сёння ты працуеш у беларушчыне, а нехта з тваіх суайчыннікаў, гарадзенскіх «палякаў», працуе на пальшчызну. Так што культуралагічныя наступствы каталіцызму не такія й адназначныя... Скажы, што паўплывала на тваё асабістае самавызначэнне, і што, на твой погляд, перашкодзіла зрабіць такі ж светапоглядны выбар тваім землякам?

**Я. Ш.** Натуральна, што ў «спаланізаванай», дакладней сказаць — прыхільна, з сімпатыяй настроенай да польскай культуры сям'і мне не так цяжка было далучыцца да пальшчызны. У далёкія 60-я, 70-я гады аб «польскім» і па-польску пра сусветнае можна было даведацца непараўнальна больш, у адрозненне ад рускамоўнай і беларускамоўнай інфармацыі, што рэгламентавалася жорсткімі нормамі камуністычнай ідэалогіі. У Гародні ведаць польскае ці мець з ім сувязі не лічылася заганным, а выдавала нават ганаровым. Ужо не кажучы пра кантакты са сваякамі-рэпатрыянтамі, якіх многім гарадзенцам афіцыйна дазвалялася сустракаць альбо самім да іх ездзіць. Нават школьнікам настаўнікі перадавалі адрасы польскіх аднагодкаў і раілі з імі перапісвацца. Не было дня, каб турысты з «братняе сацыялістычнае Польшчы» тлумна і шумна не з'яўляліся на вуліцах Гародні. Не ведаць, не чуць, не засвойваць пальшчызны было немагчыма. Мяне, аднак, заўсёды бянтэжыла, смяшыла і засмучала павярхоўнае «пшэканне» (так з'едліва — гэта факт — у гарадзенскім асяроддзі называлі польскую мову) многіх мясцовых католікаў дзеля падкрэслівання сваёй польскай адметнасці. Яно іх, праўда, цалкам задавальняла... Напрыклад, стрэнуцца тутэйшыя кабеты, што гадаваліся яшчэ «за польскім часам», і пачынаюць размаўляць між сабою, як ім здаецца, па-польску. Але на самай справе гэта нейкая моўная мяшанка-трасянка (слова беларускае, слова рускае), крыху прыпраўленая дзеля шляхетнага выгляду зваротамі ветлівасці «прошэ панічка», «дзень добжы», «довідзэня» і інш. Браць прыклад са старэйшых і імітаваць без асаблівых адукацыйных намаганняў пальшчызну мне асабіста было нецікава і недастаткова, бо ў такім выпадку ніколі б не зразумеў таго, што напісана ў кнігах,часопісах, газетах, якія тады свабодна ляжалі ў бібліятэках, крамах, кіёсках, што казалася па польскім радыё і тэлебачанні, на якія можна было настроіцца.

(Працяг на стар. 12).

# ІНШАЦВЕТ У МЕЖАХ РЭАЛІЗМУ

## Прытчы Янкі Сіпакова

наў». «Памятаеце ў Евангеллі?» — задае рытарычнае пытанне адзін з герояў гэтай прытчы, Бездакорны. Ён пераказвае евангельскую гісторыю пра тое, як нячыстыя духі, выгнаныя Ісусам з грэшнага чалавека, пайшлі ў свіней, а затым патанулі ў моры. Бездакорны, прэтэндуючы на ролю Хрыста, прымушае грэшных мужчын і жанчын каяцца, выганяць з сябе дэманаў. Сцэны гэтага выгнання самыя працяглыя ў навеле. Адзін жа з грэшнікаў урэшце змушае каяцца і самога Бездакорнага, бо і ў душы апошняга, аказваецца, жыве страшны чорт. «Ой, вінаваты... Ой, гару...», — курчыцца на падлозе Бездакорны... Апавядальнік жа разважае: «Жыццё тваё, Божа, шырэйшае за звычайнае жыццё, калі ў ім і грэшнікі і святыя могуць вось так лёгка паядноўвацца і ўжывацца ў адным чалавеку. І калі самымі святымі часам аказваюцца не тыя, хто пра гэта гаворыць, а тыя, хто ў гэта верыць. Вернікі часцей за ўсё бываюць святымі».

Прынамсі, у канцы XX стагоддзя падобная форма наводзіць на думку пра нешта выкапнёвае (пры жаданні можна раскопваць тут і традыцыю, скарынаўскую, напрыклад). Аднак шчырае ментарства сёння не можа не раздражняць. Сёння перагружаны адмысловымі спасылкамі кантэкст усё ж такі патрабуе тыпалагічна «свайго», лёгкага апавядальніка, знакамітага іранічнага пост-інтэлектуала. І ён непазбежна з'яўляецца на сцэне, нават па-за воляю аўтара, — у прыпавесці «Усё, што па пары», напрыклад.

У гэтым абразку дасціпны апавядальнік расказвае чытачу пра тое, як варагуюць між сабой правыя і левыя рукі, ногі, бровы, вушы, іншыя бінарныя сварліўцы ў чалавеку. Не забыты і нос. Але напрыканцы навелы наш гарэзлівы суразмоўца знікае, і новы гаспадар разбурае тэкст. Ён глыбакадумна тлумачыць: «Значыць, усё, што ў чалавеку па два, часам сварыцца між сабою. Энергія не сварыцца ніколі, бо яна адна. І таму вечная. Як бы гэта растлумачыць усяму, што сварыцца?! Божа наш, навошта ты дазваляеш нам сварыцца тады, калі дурні прыкінуліся разумнымі, а разумныя змушаны слугаваць ім?»

Як бачым, залішне сур'ёзна паставіўшыся да фармальных прыкмет абранага жанру (наяўнасць у прытчы маралі), пісьменнік гатовы цягнуць павучанні ў кожны абразок — хоць бы і за вушы.

Ён увогуле, здаецца, пераацэньвае мастацкі патэнцыял просценькай стылізацыі пад прытчу. Так, у апавядзе «Гумно» папулярна-асветніцкія намеры аўтара празрыстыя да наіўнасці, да дзіцячай тэлеперадачы пра Біблію, — уласна-мастацкае тут заканамерна чэзне (падобныя навелы іншай тэматыкі: «Тысячагадовы дзень», «Двое для дваіх», «Аб'ява ў газеце»).

Між тым літаратурная прытча сёння — гэта зусім неабавязкова адкрытая дыдактыка, падкрэсленая, выпнутая няпэўнасць часу і прасторы, дэманстратыўная сімвалізацыя характараў і абставін. Слова ўжо само па сабе знак, і актуалізаваць знакавую прыроду любога слоўнага вобраза можна намнога больш эканомнымі сродкамі. Што выдатна дэманструе і сам Я. Сіпакоў.

У абразку «Гармонік» герой-апавядальнік завітаў на ферму без страхі — з'елі каровы. Просіцца слова — на калгасную ферму; але калгасы ні разу не згадваюцца, ёсць ненавязлівыя, у дыялогу, перыфразы, тыпу: гаспадаркі, якія спаборнічаюць між сабой, хто болей птушак па-над свае палі загоніць, каб апошнія ўгнойваліся. Час дзеяння акрэслены ў трох абзацах, з падрабязным, прадметным апісаннем пакінутых вёсак, па якіх блукае апавядальнік. Для чытача напачатку карціна настолькі пэўная, што ён зусім не заўважае адсутнасці ў тэксце ключавых слоў, якія робяць апісанне адназначным («калгас», «неперспектыўная вёска», «радыяцыя»), або пазначэнне нейкай даты. Уражвае вельмі выразная рэальнасць, нават будзённасць усяго, пра што ідзе гаворка. Сярод знаёмага гнятлівага запусцення апавядальнік чуе зухаваты, залівісты гармонік, і, ідучы на ягоны голас, выходзіць да голага кароўніка.

Я. Сіпакоў з бляскам паказвае вясковага дзядзьку-гарманіста, які іграе каровам: дзядзькаву цыгарку і неадменнае «ундзека» ў размове з апавядальнікам, мяхі гармоніка, што шкрабуцца аб куфайку, шчыплючы часам зарослую сівой шчэццю дзядзькаву шчаку, адкасанае вуха шапкі-аблавушкі, што, звесіўшыся, трапляе між мяхоў...

Пазарэальнае, прытчавае выступае на першы план амаль незаўважна плаўна, разам з натуральнай фабульнай кульмінацыяй (такога ж плана навела «Як спакайней»): апавядальнік раптам разумее, што музыкай дзядзька корміць знясіленых кароў; што гэтае «легко на сердце от песни веселой», якое бы выгаворвае гармонік, гіпнатызуе змучаную жывёлу, і яна перастае на час «музычнай паўзы» нема енчыць, просячы ежы. Апавядальніку робіцца вусцішна, і ён уцякае ад убачанага. Але ці можна ад гэтага ўцячы? Я. Сіпакоў завяршае прытчу стылізаванымі радкамі, якія, здаецца, мала што дадаюць да ўжо сказанага пра фантасмагарычны здзек, падман, смерць, запусценне: «І я ўжо злаваў на тое, чым яшчэ нядаўна цешыўся, і прагнуў таго, каля чаго раней праходзіў паблажліва. І радаваўся таму, чым яшчэ толькі што засмучаўся, і засмучаўся тым, што ўчора яшчэ мяне радавала і прыносіла асалоду».

Як паказала пісьменніцкая практыка, самым натуральным для нашых аўтараў шляхам у іншасвет стаўся шлях праз фальклор і міфалогію (нездарма на старонках «ЛіМа» ўсё часцей цытуюцца В. Каваленка і У. Конан). Ідзе гэтым шляхам і Я. Сіпакоў, — дзе паслядоўна, а дзе — адмыслова кружляючы ў пошуку новых мастацкіх рашэнняў. Я. Сіпакоў мастак дужа пластычны, пісаць нерэальнае яму лёгка, — па слова, па фантазію, што называецца, у кішэню не лезе. Ён умее яскрава і вынаходліва намаляваць ірэальную сітуацыю, нават самую стандартную: перасяленне душы, звычкі дамавіка, праблемы з двайнікомценем або стан чалавека-істоты невядомай, што на вачах пераўвасабляецца («Адзін з нас», «Хатнічак», «Заложнік», «Клетка», а таксама «Перад гільяцінай», «Абсурд», інш.). Паколькі алюзіі з хрэстаматыйнай замежнай класікай ды з элементарнымі філасафемамі часам проста навязлівыя, то чытачу застаецца чакаць толькі арыгінальнай развязкі. Але якраз яна зазвычай адсутнічае: напрыканцы сцеражэ рыторыка з далёкімі намёкамі, узоры якой мы ўжо прыводзілі.

Стылёвы эклектызм часінамі дужа адчувальны. У навеле «Хатнічак», напрыклад, паказальна змешваецца «міфалагічнае» мысленне з паводлефальклорнай показкай і з дыдактыкай уласна прытчы. Пачатак навелы — адухаўленне старажытных стыхій: агню, жалеза і дрэва, іх таемных узаемаадносін у абрадах жыцця і працы чалавека. Асноўная частка, таксама дастаткова паэтычная, — гэта амаль казачнае апісанне нораваў хатнічка. І заканчэнне прытчы звязана з сучаснымі фігурамі, з лёсам старых, кінутых на вёсцы бяздушнымі дзецьмі.

Адзінае, чаго не хапае, — арганічнасці: каб кожная рабрына гэтак прасталінейна сваім рубам не выпіналася.

Вылучаецца арганічнасцю з маладосцеўскай падборкі прыпавесць «Тыя, што ідуць». Што яе адрознівае ад вышэйпамянёных навел, у якіх распісваецца агульнавядомае? Канцэпцыя. Ідэя. Выхад у іншасвет не наўздагон модным павевам, не дзеля прафесійнага самасцвярджэння. А найперш дзеля таго ўласназнойдзенага, надзённа-сучаснага мастацкага вобраза, які натуральна перагукваецца з адвечнымі для нацыі ісцінамі. Відаць, каб з'явіўся падобны вобраз, і трэба пісьменніку «набіць руку»?

«Тыя, што ідуць» — гэта прыпавесць пра адвечнае шэсце Белабогава народа паўз пакінутыя ім вескі, паўз аблашчаныя ягонай працай палі, з нячутнай мовай і з прадчувальна велічнай мэтай. Яно адкрылася банальнаму дачніку, што далучаецца да вялікай таямніцы.

Гэтая схема ператвараецца ў міфалогію настолькі сапраўдную, наколькі чытач пазнае ў ідэальных вобразах сваю духоўную прарадзіму. Тое, што ўжо некалі стала прадметам нацыянальнай легенды, Я. Сіпакоў адухаўляе як бы ў другі раз; і чытацкая прасвядомасць усур'ёз адгукаецца на гэты, здавалася б, атавізм для сучаснага чалавека — новую эстэтызацыю легендарнага.

Зніжаны герой у прыпавесці Я. Сіпакова не проста сюжэтна неабходны. Гэты персанаж дапамагае пісьменніку захаваць эмацыянальную гнуткасць, вылучыць высокі міфатворчы тон і ўрэшце чароўна дасягнуць той самай стылёвай арганічнасці.

Цікавыя па выкананні і такія грамадазначныя прыпавесці-эскізы, як «Дарога», «Наперад, наперад», «Пластылінавыя людзі». У іх ілюструюцца нашы паслягарбачоўскія сацыяльныя «адкрыцці».

Што тычыцца класічнай містыкі пераўвасабленняў, то падобныя навелы не ўразілі («Перавернуты», «Свой усяму»).

Даўно вядомы Я. Сіпакоў і як аўтар твораў пра каханне. Эротыка, каханне так ці інакш прысутнічаюць ці не ў палове і новых навел. Падобныя прыпавесці Я. Сіпакова вельмі розныя, ад рамантычнай «Заміры» да маламастацкай «Двое для дваіх».

І ўжо зусім шчырае паэтычнае маленне на эрас падаецца ў «Партрэце сонца і мора». Ва ўсякім разе гэта разнастаіць модны сярод маладзейшых празаікаў дэструктыўны, татальназдзеклівы мастацкі погляд на эротыку. Мае сэнс час ад часу пісаць пра інтымнае і паводле не самай авангарднай псіхікі. Безумоўна, калі пісьменніку не здраджвае густ і пачуццё меры.

Згадаўшы ў прыпавесці «Яшчэ ў статку» праміскуітэт, сексуальную рэвалюцыю на Беларусі, прастытуцыю, бізнесменаў і рэкеціраў, Я. Сіпакоў піша: «Ён (Сонцапас. — **Л. К.**) нешта новае займеў, але нешта і страціў. Яму здавалася зараз, што яна для яго памерла—тая, ранейшая. А ён для яе нарадзіўся — зараз ужо Крылатка ні з кім, апрача яго, не хацела хадзіць за куст...» І далей згадваецца Бог, які і сам бы не разабраўся, што ў людзей да чаго. За мараль выносіш хіба думку пра тое, як соладка грашыць з прастытуткамі і як гэта іх выхоўвае.

Нешта падобнае (агульнастылёвы збой) разбурае і прыпавесць «Туман». Самай жа няўдалай падалася навела «Катаванне на стайні». Эротыка з пераходам у секс не можа існаваць у кантэксце, які стылізаваны пад фальклорную казку-легенду, ды з дзеючымі асобамі — былымі студэнтамі «аднаго савецкага інстытута». Меладраматычны пафас («Пачвары! Сволачы! Святыя!»; «О, хто зразумее...»), мякка кажучы, яшчэ больш недамесны.

І ўсё ж творчая рызыка не можа не выклікаць павагі і ўвагі. Асабліва, калі пошук вядзе адзін з найбольш таленавітых пісьменнікаў, і на ягоным шляху, натуральна няпладкім, усё ж сустракаюцца яркія мастацкія ўдачы — што сведчыць пра новую ступень разняволення, раскаванасці сучаснай беларускай літаратуры.

**Людміла КОРАНЬ.**

# «Які я шчаслівы ў сваёй сярмязе...»

звяртаў на своеасаблівасці жыцця і светапогляду славян. Ён лічыў, што славянскі дух да пэўнага часу быў вольны ад хрысціянскага універсалізму, уласцівага духоўнаму развіццю іншых еўрапейскіх народаў. Уніфікатарская ж роля хрысціянскай культуры і цывілізацыі, плынь новай веры, прыўнесеная ў жыццё славян, на думку Хадакоўскага, «далучыла нас да непадобных нам іншых еўрапейскіх народаў», з'явілася «падкопам пад заўсёды мілую нам народнасць», пад якой ён разумеў самабытную славянскую культуру. Таму ў мове народа, яго паэзіі, звычаях і абрадах ён шукаў і знаходзіў праславянскія элементы, не скажоныя чужым уплывам. Просты народ, а не шляхту, якая, па яго словах, прыняла чужую культуру і з пагардай адкінула родную, Хадакоўскі лічыў асноўным стрыжнем нацыі — у процілегласць тагачаснай афіцыйнай навуцы, якая ў паняцце «народ» уключала толькі дваранства, у рэдкіх выпадках яшчэ і мяшчанства. Хадакоўскі першы сярод славянскіх вучоных адзначыў высокія мастацкія якасці народных песень, казак, паданняў, легенд і ўбачыў у іх крыніцу, па яго словах, «для ўзбагачэння нацыянальнай літаратуры, насычанай без меры чужароднымі элементамі». Сабраны багаты фальклорны і этнаграфічны матэрыял ён выкарыстоўваў для напісання этнічнай гісторыі народа, фарміравання грамадскай думкі, выяўлення элементаў народнай самасвядомасці.

Хадакоўскі дзе пехатой, а дзе на пракладных аб'ездзіў амаль усю Беларусь, Заходнюю Украіну, поўдзень Польшчы, поўнач Расіі, раскопваючы курганы, магілы, шукаючы старажытныя рэчы пад стрэхамі хат, у сховішчах і палацах памешчыкаў, запісваў з вуснаў народа песні, казкі, прыказкі, прымаўкі, трапныя выразы, асаблівасці мовы мясцовых жыхароў. У яго дарожных нататках раз-пораз мільгаюць назвы гарадоў — Мінск, Віцебск, Гомель, Гародня, Магілёў, Полацк і соцень вёсак і старажытных паселішчаў. Наведваючы сялянскія вяселлі, дзявочыя вечары і запісваючы там фальклорныя творы, Хадакоўскі з захапленнем зазначаў: «Шчасце па зямлі блукаць сярод народа, жыць у поўную моц паэтычным жыццём сялян! Які ж я шчаслівы ў сваёй сярмязе, з маёй беднай стравай, калі мне расказваюць пра свае ўспаміны і жаданні! Сярод народа жыве дабрадзейнасць, сярод народа паэзія жыве! Пакажыце мне хоць аднаго селяніна-земляроба, каб па ўласным жаданні дрэнна рабіў. Дрэннае сэрца мае той, хто не любіць народа ўсёй братняй любоўю». Заўсёдная дарога і пастаянныя зносіны са спевакамі, казачнікамі, лекарамі і іншымі народнымі талентамі, перапіска са шматлікімі карэспандэнтамі, якія жывілі яго багатым духоўным пажыткам — усё гэта стварала невычэрпную крыніцу для яго навуковых пошукаў.

У сваіх даследаваннях Хадакоўскі не абмяжоўваецца дадзенымі аднаго якога-небудзь са славянскіх народаў, а імкнецца па магчымасці сабраць матэрыял па ўсіх славянах. На патрабаванне А. Чартарыйскага абмежавацца тэрыторыяй Польшчы Хадакоўскі ў лісце да Л. Крапінскага пісаў: «Няхай патрыятычная думка не аддзяляе ад мяне іншых славянскіх краін. Калі перастану быць братам для рускіх, чэхаў, венграў і іншых, павінен буду спыніць усе намеры, тады і польская старажытнасць знікне. Без іншых гэтага адкрыць немагчыма». На шматлікіх прыкладах у кнізе раскрываецца бясплённасць мецэнацтва: мала чаго атрымаў Хадакоўскі ад такіх мецэнатаў навукі, як князь А. Чартарыйскі, граф М. Румянцаў і іншыя, якія, не разумеючы сапраўднай сутнасці яго ідэй, у першую чаргу патрабавалі задавальнення іх часам недарэчных жаданняў. З цікавасцю азнаёміцца чытач з фактамі біяграфіі нашага славутага земляка, даведаецца пра яго навуковыя дыспуты з М. Карамзіным, К. Калайдовічам, віленскімі дактарамі Я. і І. Снядэцкімі і С. Юндзілам, якія бесцырымонна абышліся з ім за яго крытыку хрысціянства і асабліва каталіцкага духавенства, за празмернае ўсхваленне язычніцкай даўніны. На шырокім сацыяльным фоне тагачаснага жыцця Усходняй Еўропы аўтары кнігі прасочваюць нялёгкі шлях вучонага-першапраходцы, які здолеў сказаць новае слова ў археалогіі і фалькларыстыцы, этнаграфіі і мовазнаўстве. Значным быў яго ўплыў на філаматаў, навуковыя працы такіх прадстаўнікоў беларусістыкі, як К. і П. Тышкевічы, К. Вуйціцкі, Ю. Крашэўскі, Р. Зяныкевіч, М. Федароўскі і іншыя. Вялікі інтарэс праяўлялі да дзейнасці Хадакоўскага ўкраінскія і рускія славісты М. Максімовіч, І. Бадзянскі, Я. Галавацкі, М. Карамзін, М. Пагодзін, І. Снегіроў, І. Сразнеўскі і інш., а таксама славісты Заходняй Еўропы.

Праз усю кнігу аўтары паслядоўна раскрываюць велічную постаць Хадакоўскага не толькі як вучонага, які ўсёй душой аддана служыць пастаўленай перад сабой мэце, разумеючы яе навуковую і сацыяльную вартасць, але і як добразычлівага чалавека з адкрытай душой і ўласцівай беларусу талерантнасцю. Хадакоўскі называў сябе нярэдка тутэйшым, чым падкрэсліваў сваю прыналежнасць не толькі да беларускага народа, але і да ўсіх славян. Нездарма аўтары назвалі кнігу «З душой славяніна».

**Я. САДОЎСКІ.**

# ПЕРАСТВАРЭННЕ СВЕТУ

## Сем паштовак з фестывалю «Адраджэнне беларускай капэлы»

### I

Усё, здаецца, прадумалі-прадугледзелі, абгаварылі чыннікі музычнага адраджэння. І мэты, і прынцыпы дзейнасці, і структуру новага творчага калектыву — «Беларускай Капэлы». І перспектыву фірменнага свайго фестывалю. І нават праблему рэканструкцыі адпаведных будынкаў у месцах гістарычнага існавання капэл.

Адно не вызначылі: якім быць мусіць слова пра з'явы музычнага адраджэння, пра рэаліі старасвецкай культуры, перастворанья ў канцы XX стагоддзя? Ці не паруліцца за адным разам і пра адраджэнне тых форм абмеркавання музыкі, што былі звыклымі, скажам, дзве сотні гадоў назад? Калі так — з усяго магчымага выбіраю імправізаванае выяўленне думак з пэўнай музычнай нагоды: эпісталярны жанр.

У першай паштоўцы мушу засмуціць спадароў, якія не патрапілі на канцэрты II Міжнароднага фестывалю «Адраджэнне...» Борза-пісальніцтва маё, калі й дапаможа высветліць, як многа вы страцілі, дык не дасць парады наконт замяшчэння таго духоўнага ды інтэлектуальнага недабору. А творчым гаспадарам «Беларускай Капэлы» (мастацкі кіраўнік В. Скорабагатаў, дырэктар Я. Паплаўскі) і тым, хто з імі, мушу зрабіць камплімент. У фестывальных праграмах выявіліся высакародная эстэтычная тэндэнцыя, спалучэнне стабільнага густу са здатнасцю ўгледзець і прыняць небанальнае.

Наўмысна ці міжволі арганізатары «Адраджэння...» надалі сімвалічны сэнс фестывальнай падборцы. Сем канцэртаў, нібы біблейскія сем дзён стварэння. Пачаткам — араторыя І. Гайдна «Стварэнне свету», жыццядайная музыка, што, як цудоўны дотык духу, скаланула летаргію нашай не маналітнай, але масавай свядомасці. У дзень апошні — «Балетны дывертысмент», прасякнуты мажорам, вабны класічнай гармоніяй старасвецкай музыкі, хараством юных постацей у танцы, парадыйнай фарсавасцю разыграных акцёрамі строф з Гесіёдавай «Тэагоніі». «Тэагонія» значыць «радавод багоў». Такі своеасаблівы, праз антычную міфалогію, аповяд пра стварэнне свету з хаосу.

Стварэнне свету — перастварэнне свету... Перастварэнне сфармаванай за многія дзесяткі гадоў устойлівай сістэмы поглядаў (ад абывацельскіх да акадэмічных) на «музычны менталітэт» беларуса, пазбаўленага гэтай сістэмай праўдзівага гістарычнага досведу, крэўных правоў на шляхетныя пласты агульнаеўрапейскай культуры. Перастварэнне нашага штучна звужанага, куртатага далягляду і вяртанне ў радавод вялікага свету музыкі. Які, аказваецца, размах у трох гэтых словах: «Адраджэнне беларускай капэлы»!

Хто чытае «ЛіМ», адкрыў для сябе апошнім часам шмат фактаў, якія пашырылі-паглыбілі ўяўленне пра музычнае мінулае Беларусі. Для людзей з жывым інтэлектам перастаюць ужо быць сенсацыйнай экзотыкай, а робяцца хрэстаматыйнымі гісторыі кшталту сяброўства М. К. Агінскага з І. Гайднам, якому зямляк наш падказаў ідэю араторыі «Стварэнне свету»... Дарэчы, В. Скорабагатаў, адкрываючы фестываль, жыва і папулярна перадаў сабраныя нашымі даследчыкамі цікавыя звесткі пра музычны Слонім XVIII ст., пра капэлу Агінскага, пра самога «гетмана-кларнета». Бракавала, бадай, агульнага анатацыйнага матэрыялу, які дапамог бы сарыентавацца слухачам у коле дзейных асоб і сюжэтных калізій буйнога нямецкамоўнага твора.

Наш сімфанічны аркестр пад кіраўніцтвам А. Штэйнлухта (Пецярбург) не так уражваў у празрыстых па фактуры пастаральных эпізодах, як у туційных поліфанічных. Выразна гучаў хор (капэла імя Р. Шырмы). Стыльна правёў сваю ролю маэстра, спалучаючы кіраванне аркестрам і выкананне партыі клавесіна. Напоўнілі жыццём свет гайднаўскай араторыі салісты: чароўная госця з Пецярбурга Э. Цітарэнка, старанны й сур'ёзны Р. Паляшчук (ДАВТ Беларусі), саліст беларускай оперы А. Кеда, чыё мяккае, высакароднае пяянне заслужыла авацыі.

### II

**Працягваючы вандроўку па музычных асяродках Беларусі XVIII ст., мы апынуліся ў Магілёве, дзе гадоў 200 таму італьянская оперная трупа Санкт - Пецярбурга паказала «Уяўную каханку» Д. Паізіелы, падрыхтаваную да нагоды прыезду ў Магілёў Кацярыны II. Рамантычны вэлюм ахінае гісторыю вяртання да нас гэтага твора некалі папулярнага кампазітара. Вядомы піцерскі беларус, навуковы супрацоўнік Нацыянальнай бібліятэкі імя Салтыкова-Шчадрына М. Нікалаеў, госць ужо другога фестывалю, расказваў потым:**

**«Ніхто не ведаў, дзе знаходзіцца арыгінал гэтага своеасаблівага опернага шэдэўра. Толькі нядаўна Я. Паплаўскі, вельмі таленавіты даследчык музыкі, знайшоў рукапіс «Уяўнай каханкі» ў нашай бібліятэцы, убачыў вартасці гэтага рукапісу — музычныя, гістарычныя, — і пачала рыхтавацца прэм'ера. Заказалі перапісчыкам ноты, а перапісчыкі потым звярнуліся да мяне як да палеографа, бо не маглі прачытаць словы, напісаныя пад нотамі. Тут XVIII стагоддзе, скорапіс. Я выканаў сваю работу, прачытаў, што там напісана, вельмі задаволены быў. Оперу пачалі вучыць А. Штэйнлухт, вельмі паважаны пецярбургскі дырыжор, і ягоны аркестр «Санкт-Пецярбургскі «Моцартэум». Раптам — званок: «Мікола! А што ж там ад чаго?» Твор пабудаваны на прынцыпах оперы XVIII ст., г. зн. адбываецца нейкая драматычная дзея, а потым персанажы спяваюць цэлыя кавалкі. Без драматычных размоўных сцэн незразумела, пра што спяваюць выканаўцы. Тое, што я перапісваў сваёй рукою ў партытуры, змяшчае такі тэкст: «Как зол я ужасно, всех порежу на куски...» — і больш нічога. Раптам зрабілася відавочным, што, маючы толькі музычныя кавалкі, выканаць оперу немагчыма.**

**Мяне папрасілі знайсці лібрэта. Шукаць лібрэта оперы, якая больш за 200 гадоў назад гучала і потым не выконвалася?! Я сказаў: са 100 працэнтаў ёсць адзін ці два, што я знайду, а 99 — што не знайду. З дапамогай сваіх сяброў бібліёграфаў знайшоў у рускім дарэвалюцыйным фондзе канвалют — гэта пераплёт, у якім сабрана многа тоненькіх кніжак, — а ў ім у сярэдзіне была кніжачка з лібрэта «Уяўнай каханкі». Можаце ўявіць, якое было маё шчасце, што я за тыдзень да выканання оперы змагу паведаміць, пра што яна! Аднак лібрэта, якое знайшоў, не стасавалася да версіі перакладу, занатаванага ў партытуры. Бо «Уяўная каханка» існавала ў перакладзе нашага земляка З. Крыжаноўскага (у яго імя галоўнага героя Семіл — характэрны польскі ўплыў). А другі пераклад рабіўся з італьянскай на французскую, а тады на рускую (там персанажы названы па-французску). Але гэта адна і тая рэч. І перад самым выкананнем оперы А. Штэйнлухт пазнаёміўся са зместам, часу пабудаваць спектакль ужо не было, і таму на філарманічнай сцэне адбывалася вельмі прыгожая і нетрадыцыйная дзея...»**

**Так, музыканты былі занятыя сваёй справай, потым дырыжор паварочваўся тварам да залы, расказваў ход падзей, тлумачыў змест наступнай часткі. Гэта было артыстычна, з гумарам, дасціпна зроблена. І хаця можна выказваць заўвагі салістам (В. Кажанава, Р. Паляшчук, А. Буянаў), у цэлым публіка нечакана для сябе атрымала асалоду ад сапраўднай оперы-буфа, з любоўным трохкутнікам, камічнымі сітуацыямі, гіпербалічнымі страсцямі.**

**М. Нікалаеў быў у захапленні: «Я думаў, наколькі машына часу ўсё-такі працуе, хаця гэта тэарэтычна немагчыма, практычна яна працуе. Вось нашы продкі 200 гадоў назад абраблялі зямлю ці нешта іншае рабілі, а оперу слухалі Кацярына II, яе госці і двор, а цяпер зрабілася так, што простыя жыхары горада маглі купіць білет і слухаць тое, што слухаў двор. Дзякуй намаганням арганізатараў «Беларускай Капэлы», якая падаравала другі фестываль і працягвае працаваць над рэканструкцыяй музыкі мінулага, якая гэтай машынай часу і з'яўляецца для нас».**

### III

Для досыць шматлікай і пераважна маладой публікі фестывальныя канцэрты (аздобленыя, больш ці менш удала, уступным словам або каментарыем) былі спавітыя флёрам неспазнанай мінуўшчыны і нагадвалі-такі музычнае падарожжа на машыне часу. Нават строгія навукоўцы не хавалі эмоцыі, не пазбягалі прыгожых метафар, але мусілі высвятляць: а што там, пад «флёрам»? Абгаварэнне праблем музычнага адраджэння атрымалася не такім фундаментальным, як летась, але паслухаць было што.



Дуэт В. ЖЫВАЛЕЎСКІ ды Я. ГРЫДЗЮШКА.

Гаворку ўдзельнікаў тэарэтычнай канферэнцыі, спадзяюся, з уласцівай яму грунтоўнасцю адлюструе часопіс «Мастацтва». Значыць, здаволімся пакуль фрагментамі?

Вядучая пасяджэння В. Дадзіёмава (яна, дарэчы, плённа папрацавала і як каментатар некалькіх канцэртных праграм) запрапанавала вызначыць агульны погляд на такія істотна адрозныя паняцці, як «культура Беларусі» і «беларуская культура»; паразважаць пра сітуацыю, у выніку якой дасягненні нашага прафесійнага і аматарскага мастацтва засвойваліся суседнімі культурамі, рабіліся іх здабыткам; выпрацаваць агульную пазіцыю адносна твораў тыпу «Стварэння свету» ці «Уяўнай каханкі». І што ж? «Паразважаць» — гэта наогул атрымалася. «Вызначыць агульны погляд», «выпрацаваць агульную пазіцыю» — на жаль...

Развіваючы ўласныя развагі, знаёмыя чытачам «ЛіМа» (23.10.92 г.), Г. Барышаў казаў, прынамсі, што вельмі часта ў нас блытаюць этнас і нацыю, этнічную ды нацыянальную культуру, што ёсць яшчэ паняцце «рэгіянальная культура». І калі мы гаворым пра рэгіянальную культуру, дык маецца на ўвазе, відаць, асаблівы тып надкультуры, які вызначаецца агульнаеўрапейскай, так бы мовіць, граматыкай, які прайшоў некалькі этапаў, і першы з іх — трансплантацыя гатовых формаў. Але найбольш цікавы працэс другога нараджэння, «пераварэння», калі адкрытыя ў свой час з'явы пачынаюць успрымацца як частка свайго, паступова з'яўляюцца элементы, якія можам называць нацыянальнай культурай, а нацыянальная культура, на думку Г. Барышава, — гэта вельмі блізка нашаму разуменню дзяржаўнай культуры. Ужо сфармаванаму, цэласнаму вялікаму пласту, што ўключае поліэтнічныя, полілінгвістычныя рэчы — пры пераважанні ў дамінанце нейкай адной этнічнай часткі культуры. Прыклад — віленскае барока, не падобнае да прынесенага сюды ранняга італьянскага; ці польска-беларускія інтэрмедыі, якія адначасова належаць дзвюм культурам і ніводнай — цалкам.

І яшчэ прыклад, згаданы прафесарам: «Рамэо і Джульета» ў тэатры імя Янкі Купалы, па-беларуску. У гэтым ёсць вельмі важны момант, што дазваляе нацыянальнай культуры ўваходзіць у агульнаеўрапейскі, нават сусветны працэс. Нацыянальная, у адрозненне ад этна-нацыянальнай, — больш высокі пласт культуры, калі апроч дыхтоўнага ведання і праяў свайго непаўторнага ёсць ужыванне каштоўнасцяў усіх народаў усяго свету, калі паступова агульначалавечае робіцца галоўным, пачынае пераважаць над каштоўнасцямі іншага тыпу.

Для Беларусі, якая сама ўнікальная, бо ўзнікла на сутыку дзвюх цывілізацый, вельмі характэрны ўзаемаўплыў культур, іх аднačасовае развіццё: нават нацыянальная своеасаблівасць, нешта непаўторнае ўзнікае тут на сутыку памежных зонаў. Таму, у чым з Г. Барышавым шмат хто пагодзіцца, мы вельмі многія з'явы можам разглядаць як з'явы ўласныя, інакш проста самі сябе абрабуем. Як можна, напрыклад, з беларускай нацыянальнай культуры выкідаць агромністы пласт, які давала шляхта! Гэта культура элітарная, звязаная з больш высокімі формамі інтэлектуальнага, духоўнага выяўлення нацыі. Ацэньваючы ўзровень мастацкай творчасці, мы заўсёды арыентуемся на ўзоры прафесійнай культуры.

А вось пазіцыя У. Мархеля, цытую: «Думаю, мы дарэмна наглуха прывінчваем культуру да палітыкі і дзяржавы. Хто больш-менш цікавіцца гісторыяй культуры любой нацыі, любой дзяржавы, бачыць, што культура не заўсёды спрыяе дзяржаве ці ўладару, але можа быць і вялікім антаганістам. Бо культура выяўляе не толькі інтарэсы правячых колаў, а гэта з'ява духоўная, вось тое, што вы маеце на ўвазе «наднацыянальнае», — гэта і ёсць з'ява духоўная. А духоўнасць выпрацоўваецца не дзяржавай, якая мо толькі ў нейкай ступені спрыяе і г. д. Духоўнасць ідзе спрадвеку, і аднекуль з таго, што мы сёння яшчэ з вамі не вывучылі. Мы фактаграфічна можам гаварыць пра музыку, пра з'явы культуры і г. д., карыстацца нейкімі звесткамі, маніпуляваць імі, але мы не ведаем многіх працэсаў... Ад нашых з вамі спрэчак наконт тэрмінаў не шмат што залежыць: пройдзе яшчэ 50 гадоў, і мы ўсё роўна вернемся да гэтага паняцця — «беларуская культура», бо нацыянальнае асэнсаванне ў нас працягваецца...»

І — рэпліка В. Скорабагатава: «Сальеры быў італьянец, які працаваў у Вене, а Бетховен быў немец, які працаваў у Вене. Але ж і тое, і другое мы не называем ні італьянскай, ні нямецкай музыкай. Мы называем «венская класіка» — і пытанняў няма. Але ж яны тым не менш былі імігранты ў Вене. А ці быў імігрантам М. Радзівіл у сябе ў Нясвіжы? Ці быў імігрантам Манюшка ў Мінску? Дух якога народа яны выяўлялі?.. Гэта з'ява менавіта беларускай, а не якой іншай зямлі. І ў гэтым сэнсе я не бачу праблем: там, дзе ёсць праявы менавіта духу — гэта і ёсць наша культура».

Госця з Вільні Ю. Трылупайтэне заўважыла, што застаецца адкрытым пытанне пра Рэч Паспалітую: федэратыўнаю яна была дзяржаваю ці унітарнаю — ад гэтага залежыць і погляд на становішча культуры ў нашым рэгіёне. Ва ўсякім разе, тагачасныя пласты літоўскай, беларускай ды польскай культур мелі багата агульных з'яў, таму і канцэрты фестывалю можна было б назваць «Музычны пейзаж (ці ландшафт) Вялікага Княства Літоўскага». Беларускія мастацтвазнаўцы прызналі неабходнасць узняць узровень гісторыка-музыкалагічнай навукі, а таксама вызначыцца ў праблеме крыніцазнаўства і не блытаць задачы прыкладныя (знайсці ноты і хутчэй выканаць) з акадэмічнымі (сабраць, сістэматызаваць усё, што ёсць, каб лягчэй было арыентавацца і навукоўцам, і выканаўцам) — на гэтую задачу, дарэчы, мусіць быць скіравана праца навуковага аддзела, прадугледжанага ў структуры «Беларускай Капэлы».

Знайсці, выдаць нотны рукапіс, запісаць на пласцінку ва ўзорным выкананні... Як далёка ад гэтага сённяшняя адраджэнская практыка! Старасвецкая музыка яшчэ не ўвайшла ў наша жыццё, не заняла



Сцэна з «Балетнага дывертысмента».



Грае «Класік-Авангард»...

належнага месца ў працы даследчыкаў, якія, за малым выключэннем, не спяшаюцца ступіць на terra incognita як на забыты родны мацярык, аддаючы перавагу бясплённым размовам на тэму: «наша — не наша».

Слухаючы такія спрэчкі, я міжволі ўспамінаю курс палітэканоміі, з якога засвоіла, што «маё» і «тваё» — гэта не ёсць абсалютная прыкмета, раз і назаўжды ўласцівыя рэчы, а ёсць «маёмасныя адносіны». Стаўленне да яе — як да сваёй ці да чужой...

## IV

**Пра постаць С Манюшкі пісаў у «ЛіМе» напярэдадні фестывалю У. Мархель. Сваімі меркаваннямі вядомы літаратар-навуковец падзяліўся і непасрэдна са слухачамі — ва ўступным слове да манаграфічнай праграмы «Манюшка на радзіме». Разважліва, без клічнікаў (і, мо таму асабліва пераканальна й мудра) прагучала прадмова да, бадай, самага адказнага і хвалюючага з усіх фестывальных канцэртаў. Вядома, не трэба звязваць адказнасць і хваляванні з прысутнасцю ў зале старшыні парламента С. Шушкевіча. Ва ўсякім разе не толькі мае эмоцыі дасягнулі ў гэты вечар кульмінацыйнага піку па зусім іншых прычынах.**

**Манюшка — на радзіме... Упершыню ў нашай канцэртнай зале адбывалася мастацкае асэнсаванне гэтага фенамена. Драматычнае і сентыментальнае асэнсаванне з'явы двухадзінай культуры, з'явы вельмі характэрнай для Беларусі. Перастварэнне свету Манюшкі, споўненага ўсіх адценняў рамантызму, такога эклектычнага і такога сучаснага.**

**Ініцыятар праграмы У. Мархель пераклаў тэксты большасці песень. І, аддаючы належнае святому для нашай культуры імені Купалы, гэтаксама працы шэрагу іншых літаратараў, я не магу схаваць захаплення ад перакладу У. Мархеля. Дасягнуўшы арганічнай лучнасці моўнай інтанацыі з інтанацыяй вакальнай, ён па-свойму вярнуў кампазітара «да беларускага першагуку», далікатна, тактоўна збеларушчыў песні польскага класіка, так што яны ўспрымаліся ўжо нібыта на мове арыгіналу...**

**З густам скампанаваныя ў дынамічную праграму творы былі выкананы бліскуча. Можна ставіць шматкроп'е, каб у палоне пачуццяў не згубіць кантроль над словамі. Але ж як можна прамаўчаць пра натхнёнага і чуйнага канцэртмайстра Г. Каржанеўскую! І гучанне яе «камернага аркестра» — раяля, і сам твар ейны выразна перадавалі змену настрояў, душэўнага стану лірычнага героя, вобразаў і нават персанажаў гэтага своеасаблівага вакальна-фартэпіяннага монаспектакля.**

**А саліст? Голас В. Скорабагатава гучаў як ніколі раней багата, з выразнай глыбінёй. Якая тонкая фразіроўка. Якое піяна... Без малога два дзесяткі песень — і стольні ж разоў мяняў артыст свой сцэнічны вобраз, «тэатралізуючы» тэмбр, знаходзячы трапныя мімічныя нюансы. Я і цяпер, разгарнуўшы праграмку, «бачу» нізку размаітых абразкоў: урачыстая праграмнасць «Гімна да Пана Ісуса Хрыста», жартоўнасць «Зязюлькі», лірычны смутак «Вандроўнай пташкі», напорыстасць «Песні войта», драматызм «Казака», іронія «Перапёлкі», элегічнасць «Лірніка вясковага» (III)... А змрочны баладны рамантызм «Свіцязянкі» — цэлай оперы ў мініяцюры! А віртуознае відачынства ў сцэнках «Мядзведзік», «Дзед і баба», «Кум і кума»!**

**Між тым, артыст упершыню пасля цяжкай хваробы выступаў з канцэртам, і не толькі гэты сольны вечар — сам фестываль проста не адбыўся б, калі б не адужаў В. Скорабагатаў хваробу, змагацца з якой дапамаглі яму многія — блізкія і зусім не знаёмыя людзі, сярод іх і слухачы канцэрта. У тым ліку галоўны выратавальнік — доктар Ю. Марахоўскі.**

**Падкрэслю, аднак: гэта факт перамогі не проста жыццёвых сіл артыста, што ўжо само па сабе было б падзеяй. Гэта — трыумф сіл творчых. Зробленае У. Мархелем, В. Скорабагатавым ды Г. Каржанеўскай — сапраўдны нерукатворны помнік С. Манюшку на радзіме. Напэўна, жывы музычны сілуэт гэтага нерукатворнага тварэння паўторыцца-паўстане і на сядзібе ў радзімным Убелі?**

## V

І яшчэ тры сустрэчы ў зале Залатой Горцы

Польскі ансамбль «IL concerto poLacco» стаўся аб'ектыўным выказнікам поліглатызму беларускай музычнай культуры. Праграму канцэрта гасцей складалі творы, якія прадстаўляюць у вядомай меры і польскае, і беларускае музычнае барока ды класіцызм. Манускрыпт 127/56 Ягелонскай бібліятэкі, старонкі якога прагучалі, — не што іншае, як знаны «Полацкі сшытак», знойдзены нашым даследчыкам А. Мальдзісам. Як мясцовыя, так і агульнаеўрапейскія традыцыі адлюстравала музыка М. К. Агінскага, слонімскага меламана ды мецэната. Рукапісы І. Хасэ, стваральніка Марша Яго Вялікасці Караля Польшчы, захоўваліся і ў слонімскай бібліятэцы...

Музыкай XVII ст., даволі «пурытанскай», сухаватай, захапіць слухачоў было цяжкавата. А загучалі творы XVIII-пачатку XIX ст. з больш развітай інструментальнай фактурай, з больш маляўнічымі гармоніямі — і «пацяплела» ў зале. Кіраўнік ансамбля М. Тапароўскі артыстычна шчыраваў за клавесінам. З нейкай несхаванай нецярплівай радасцю, іграў ён і сола (Паланез Б. Багдановіча). І, здавалася, нават зайздросціў сваім партнёрам, з раўнівай увагайназіраючы за імі, пакуль адпачываў ягоны клавесін... Выступленне маладых польскіх музыкаў выклікала прафесійную цікавасць у нашых інструменталістаў, якіх некаторыя тэарэтыкі папракаюць за неаўтэнтычнасць выканання старадаўняй музыкі. «IL concerto poLacco», чыё крэда — адраджэнне старой музыкі ў аўтэнтычным гучанні, карыстаецца адпаведнымі інструментамі: барочнымі скрыпкамі, віяланчэллю, флейтай XVIII ст., з характэрным няяркім гукам, які ўспрымаецца нібы праз паціну стагоддзяў.

Поспех стала суправаджае Дзяржаўны камерны хор пад кіраўніцтвам І. Мацюхова. На гэты раз у перапоўненай зале было нямала экзатычных іншаземцаў, для якіх слуханне праграммы старадаўняй духоўнай музыкі ператварылася ў своеасаблівы сеанс медытацыі. Прыгожа, сягаючы да мастацкай дасканаласці, спяваў мужчынскі хор, гучалі вакальныя ансамблі. Музыка, выкананая ў той вечар (а гэта нізка песняспеваў з «Псалтыры рыфматворнай» В. Цітова — С. Полацкага), Sanctus з Рэквіема ананімнага аўтара, духоўная музыка XVII-канца XVIII ст. і інш.), засведчыла плён даследчыцкай працы Т. Ліхач, дзякуючы якой з'явіліся ў рэпертуары хору новыя старонкі адроджанай спадчыны.

Хачу я таго ці не, але зноў даводзіцца згадваць лімаўскую публікацыю — артыкул В. Жывалёўскага, першага і адзінага пакуль даследчыка гітарнай культуры на беларускіх землях, ініцыятара праграмы «Шляхамі гітарыста Марка Сакалоўскага». Слухачам змест гэтай публікацыі перадала, ва ўласцівай ёй спакойнай мяккай манеры апавядання, музыказнаўца В. Савіцкая. Ґераіняю вечара была, канечне, імпульсіўная гітара В. Жывалеўскага.

Алегра з Канцэрта Ф. Карулі (ім некалі дэбютаваў у Жытоміры легендарны артыст і творца М. Сакалоўскі). Якой кранальна безабароннай рабілася гітара ў супрацьстаянні з сакавітай гукавой масай ансамбля «Класік-Авангард», дзе так густоўна і густа спяваў кантрабас У. Байдава, такімі тонкімі карункамі шчадравала флейта У. Бурага. І якой пакаралеўску выкшталцонай, калі сольным правядзеннем галоўнай партыі ўносіла грэшнарамантычныя ноткі ў класічную структуру твора.

Накцюрнавая пяшчота Прэлюдыі Ф. Шапэна. Грацыя, зухаватасць, сентаментальная «слязінка» ў Польцы М. Сакалоўскага (апрацоўка і выкананне В. Жывалеўскага ды Я. Грыдзюшкі). Адмысловыя штрыхі ды фактура «Славенскай фантазіі» Ё. Мерца. Элітарны І. Гайдн для трыо гітарыстаў..

Ад твора да твора трапятліва, з хваляваннем крочыў В. Жывалеўскі шляхам свайго знакамітага папярэдніка і наўрад ці ўсведамляў у гэты час, што ўжо не першы год пракладае па цаліку свой адметны музыканцкі шлях.

## VI

**Апафеоз, апошні фестывальны вечар у Вялікай зале філармоніі. Спроба адраджэння тутэйшых прыдворных музычна-тэатральных традыцый XVIII стагоддзя. Стваральнікі відовішча, на жаль, не знайшлі наймення, вартага сваёй арыгінальнай і прыгожай працы. «Балетны дывертысмент у 2-х дзеях» — гэта хутчэй падзагаловак, чым назва. Зрэшты, як сцвярджаецца ў класіка, ружа пахне ружай, хоць ружаю яе й не называй. Што значаць словы — калі ёсць свежы дух творчасці, які сам па сабе не мае ні жанравых прыкмет, ні якасных градацый, ні ўзросту!**

**Дух, подых, стан творчасці... Гэта калі сур'ёзнасць задуманага суседнічае з самаіроніяй, калі захопленасць пошукам замінае паставіць апошнюю кропку, калі відавочнае ўспрымаецца як неверагоднае, і наадварот. Стваральны дух чыстай радасці, які дае чалавеку сілы не паддавацца граху маркоты, жыць, і жыць па-людску, — той дух лунаў і сярод нас.**

**Штосьці вельмі сур'ёзнае і вельмі вясёлае бачылася ў тым, як паўсталі на сцэне артысты «Класік-Авангарда» са сваім капельмайстрам У. Байдавым. Заўсёды «чорна-белыя», «фрачныя», яны непазнавальна перамяніліся: мабыць, гэтак апраналі музыкаў у прыдворных капэлах Слоніма, Шклова, Слуцка ды Нясвіжа — парадныя сюртукі, парыкі, белыя панчохі, лакаваныя туфлі...**

**Упершыню, замілавана і чула, ансамбль салістаў акампанаваў дансёрам — выхаванцам Беларускага харэаграфічнага вучылішча. Шляхетная музыка І. Голанда, М. Радзівіла, Э. Ванжуры. Юныя постаці ў прыгожых строях (касцюмы К. Булгакавай), падобныя ці то на парцэлянавыя статуэткі, ці то на мініяцюрныя фігуркі са старадаўніх банбаньерак. Рафінаваная танцавальная лексіка (пастаноўка Г. Сінельнікавай). Грацыя матылькоў. Свежасць кветак. Слоў не хопіць для параўнанняў!**

**Адбывалася перастварэнне свету нашых уяўленняў, вяртанне ў тыя часы, калі не птушкай залётнай пачувалася на землях беларускіх вытанчанае мастацтва. Балет у стылі XVIII ст. — І дзея вечара, і дзея II «Тэагонія» (сцэнарый Я. Паплаўскага паводле Гесіёда, рэжысура А. Ляляўскага). Відовішча з удзелам тых жа музыкантаў ды навучэнцаў харэаграфічнага, а таксама спевака В. Скорабагатава ( у грацыёзнай французскай арыі В. Казлоўскага) і артыстаў-дэкламатараў, сярод якіх намічна «саліраваў» У. Варанкоў. Нешта падобнае, відаць, і лучыла нашых асвечаных землякоў з культурным людам Еўропы гадоў 200 таму...**

## VII

Сёмы «дзень перастварэння» прынёс і радасць ад заканчэння вялікай грунтоўнай працы, з чым варта павіншаваць не толькі непасрэдных удзельнікаў фестывалю і кіраўнікоў «Беларускай Капэлы». Бо іх, кожны сваім чынам, падтрымалі Міністэрства культуры, Беларуская дзяржаўная філармонія, Інстытут праблем культуры, Саюз музычных дзеячаў, без якога, дарэчы, не было б і пачатку — першага, леташняга фестывалю.

Дзякуй усім перастваральнікам нашага музычнага свету за падарожжа на машыне часу. Яно было пазнавальчае і сапраўды святочнае...

**С. БЕРАСЦЕНЬ.**

Фота У. ПАНАДЫ.

# Барыс Міхайлавіч СЦЯПАНАЎ



Беларускае кінамастацтва панесла цяжкую страту. На 66-м годзе жыцця памёр заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі кінарэжысёр Барыс Міхайлавіч Сцяпанаў.

Творчы лёс Б. М. Сцяпанава звязаны з кінастудыяй «Беларусьфільм». на якой ён дэбютаваў як рэжысёр-пастаноўшчык у 1961 г. кароткаметражным фільмам «Сакратар паветкама» (кінаальманах «Апавяданні пра юнацтва»).

Імя Б. М. Сцяпанава стала шырока вядомым у сярэдзіне 60-х гадоў. Асабістае прызнанне атрымаў яго мастацкі фільм «Альпійская балада», створаны ў 1965 годзе паводле аповесці Васіля Быкава. Карціна ганаравана прэміяй Міжнароднага кінафестывалю ў Дэлі (Індыя), адзначана прэміямі і дыпламамі VI занальнага кінафестывалю рэспублік Прыбалтыкі, Малдавіі і Беларусі (1966 г.). Чытачы газеты «Знамя юности» назвалі «Альпійскую баладу» лепшай стужкай, пастаўленай «Беларусьфільмам» у 1964-1967 гг.

Станоўча ацанілі гледачы і фільмы Б. М. Сцяпанава, зробленыя ў 70-я гады: «Я, Францыск Скарына», «Бацька», «Аблокі», «Воўчая зграя», «Гарантую жыццё».

У 80-я гады Б. М. Сцяпанаў працаваў над тэлевізійным серыялам «Дзяржаўная граніца». Усяго ім пастаўлена пяць двухсерыйных стужак гэтага цыкла. Фільмы вылучае дух рамантыкі, прыгажосць і грамадзянская мужнасць герояў.

Мастакоўская дзейнасць таленавітага рэжысёра адзначана шматлікімі ўрадавымі ўзнагародамі.

Калегі ведалі Б. М. Сцяпанава не толькі як прафесіянала высокага ўзроўню. У любых абставінах ён заставаўся чалавекам шчырым, сумленным.

У 1991 годзе Б. М. Сцяпанаў з вялікім натхненнем пачаў працаваць над 4-серыйным тэлефільмам «Д'яблу і Богу», прысвечаным лёсу нашага выдатнага земляка Казіміра Лашчынскага. Цяжкая хвароба і смерць не дазволілі завяршыць стужку.

Памяць пра Барыса Міхайлавіча застанецца ў сэрцы кожнага, хто яго ведаў.

**Саюз кінематаграфістаў Беларусі. Кінастудыя «Беларусьфільм».**

# МЕТАФІЗІКА БУДУЧЫНІ

(Пачатак на стар. 5).

Польскую мову я засвоіў за некалькі месяцаў у восьмым класе з дапамогаю падручніка для самавукаў, напісанага Данутай Васілеўскай і Станіславам Каролакам. Вельмі ўдзячны гэтым маім першым, завочным настаўнікам, бо да сённяшняга дня не забыўся іх навукі і свабодна разумею, размаўляю, чытаю і пішу па-польску. Хаця гэта толькі ў параўнанні з прымітыўным «пшэканнем». Навучыцца размаўляць па-польску як кракавякі ці варшавякі — задача немагчымая для тых, хто жыве ў Гародні, Лідзе, Сапоцкіне і іншых мясцовасцях Беларусі: для гэтага не хапае, мабыць, сапраўднага польскага неба і зямлі пад нагамі, нейкай спецыфічнай «струны» ў галасавых звязках, каб яны гучэлі патрэбнай інтанацыяй і мелодыкай.

Паспрабаваўшы карыстацца польскай мовай, я, *аднак, даволі хутка* прыйшоў да разумення, што родная мова — гэта не тая мова, што стала блізкая і зразумелая ў выніку навучання, а мова, якая генетычна закладзена ад прыроды, якая прарываецца і натуральна струменіць у думках, злятае з вуснаў, калі пачуеш у ёй неабходнасць. Яе не трэба вучыць з *азоў як замежную*, суседнюю мову, — трэба толькі несупынна аднаўляць у сваёй памяці, пачуццях, розуме, выпускаць смялей на волю, як птушку з клеткі. Гэта напачатку вельмі няпроста, бо паспрабаваць прылюдна размаўляць пабеларуску — нібы язык прыліпае да нёба ад сарамлівасці... Заўсёды бо знойдуцца нахабныя цынікі рознага полу і ўзросту, гатовыя цябе — і яе, мову, праз цябе! — абразіць. Так было і так ёсць зараз. Праз гэта прайшоў кожны, хто трымаецца роднай мовы альбо вяртаецца да яе. Але лепей усё-такі цярпець і абараняць СВАЁ, чым падстройвацца пад чужое. Як ні старайся звяртацца «чыста па-руску», а масквічы хутка здагадаюцца, адкуль ты прыехаў, гэтаксама і варшавякі не вельмі расчуляцца ад недасканалай пальшчызны, хоць яе носьбіту з Гарадзеншчыны яна здаецца ўзорнай.

Мова можа на доўгі час быць гвалтам выцесненай іншай мовай, але адметныя рысы нацыянальнага характару ад гэтага, аднак, не вельмі мяняюцца. Хоць ты маўчы, хоць крычы, але яны непазбежна праяўляюцца на кожным кроку і ствараюць пэўную атмасферу ўзаемаадносін. Дастаткова хоць на дзень выехаць за межы Беларусі і вярнуцца назад, каб адчуць тутэйшую атмасферу, псіхаклімат з новай вастрынёй. Нездарма кажуць, што ў нас можна жыць спакойна, — бо такі псіхалагічны лад тысячагадовага існавання нашага народа на сваёй этнічнай тэрыторыі. Можна ведаць не адну мову і лічыць сябе палякам ці габрэем, кім іншым, але хто прагне ў сваім жыцці раўнавагі, гармоніі, разважнасці, — мае самыя непасрэдныя адносіны да беларускай нацыі. Дарэчы, ніхто са сваёй яшчэ недасканалай беларушчынай не адчувае сябе пакрыўджаным з боку «чыстапародных», «сапраўдных» беларусаў. У народа, які стагоддзямі цярпеў крыўду ад шавіністычнай палітыкі бліжэйшых суседзяў, *такіх заганных якасцяў няма.* Кожнаму, каму не займаць шчырасці, сумленнасці, працавітасці, сціпласці, талерантнасці — не пазычаць... і беларускасці!

Можна, зрэшты, карыстацца і польскай мовай, але набываць не польскую, а беларускую самасвядомасць. Раней і зараз, калі да ўсяго беларускага выяўляецца варожасць, абыякавасць, нецярпімасць з боку шавіністаў і атручаных імі цёмных людзей, для мяне мая пальшчызна была своеасаблівым імунітэтам супраць антыбеларускай «заразы». Як было даць веры, што «это гадкое, отвратительное, никому не нужное» — беларускае — сапраўды нікуды не годнае, калі суседняе, якое я ўжо добра ведаў, такое блізкае да гэтага «брыдкага качаняці» і моўна, і гістарычна, і культурна, — чамусь не выклікае ніякіх сумненняў, а ў зацятых антыбеларускіх ненавіснікаў нат выклікае плебейскую ўмілёнасць і местачковую пыху... у такіх варунках разумны шлях супрацьстаяння невуцтву — як мага большае пашырэнне ведаў для самастойных параўнанняў і высноў. Дарэчы, многае прыходзіла і з польскіх крыніц па мастацтве, гісторыі, культуры і інш.

Калі беларускі эфір залівала бессаромная камуністычная мана і дэмагогія, якую мне асабіста невыносна было слухаць, я спрабаваў пры любой магчымасці паслухаць «Голас Варшавы» ці паглядзець *польскі тэлеканал, бо па* іх трансляваліся сучасная эстрада, музычныя фестывалі, выдатныя заходнія фільмы, тэлетэатр, багата іншай рознабаковай інфармацыі, чаго і блізка не даводзілася чуць і бачыць па рэспубліканскім Дзяржтэлерадыё.

Мая пальшчызна, такім чынам,— гэта толькі інтэлектуальны міф, насычаны ўсім лепшым, што мог пачэрпнуць у суседняй культуры, які ў юначыя гады спрыяў мне ў духоўным станаўленні на роднай беларускай глебе. Жыве ён цяпер толькі ў маіх успамінах, бо няма ўжо таго культурнага жыцця, каларытных рэаліяў, якія яго жывілі. Усё гэта стала мінуўшчынай, якая паступова аддаляецца. Толькі ў думках сам-насам магу вяртацца да тых часоў, калі быццам сыходзіў з мулкага, забруджанага берага ў жывую, асвяжальную стыхію. *І як толькі ахінуўся* ў яе першыя хвалі — пацягнула ў больш імклівую і глыбокую плынь, дзе бурлівае цячэнне і вастрыня перажыванняў ні з чым не параўнальныя. Гэта ўжо была мая беларушчына...

**Ю. З.** Пальшчызна, такім чынам, падвяла цябе да беларушчыны — праз вірус інтэрнацыяналізму, якім было ўсцяж заражона культурнае жыццё паміраючай нацыі... Беларушчына і пальшчызна, выходзіць, такія ж не ўзаемавыключальныя рэчы, як беларушчына і каталіцызм?

**Я. Ш.** Жыццё аб'яднала са шматлікімі аднадумцамі, якіх сустрэў у Гародні і пазнаёміўся ў Менску, іншых гарадах. Амаль усе яны ведаюць пальшчызну і, *магчыма, кожны з іх мае свой польскі* міф, але яны даўно вызначыліся ў галоўным, сутнасным, не баючыся на ніве сваёй культурнай, даследчыцкай дзейнасці атрымаць ярлык «беларускіх нацыяналістаў» ад бальшавіцкіх сексотаў. Зараз гэтыя нястомныя людзі самаадвержна працуюць дзеля беларускага нацыянальнага і дзяржаўнага адраджэння. Не буду казаць аб такіх аўтарытэтных дзеячах, як Адам Мальдзіс, Анатоль Грыцкевіч, нядаўна памерлы Міхась Ткачоў, іншых, чыя шырокая эрудыцыя ўключае і выдатнае веданне пальшчызны. Прыклады можна прывесці і з больш маладога пакалення беларускіх інтэлектуалаў. Гэта скульптар Валяр'ян Янушкевіч, аўтар новых помнікаў А. Міцкевічу ў Навагрудку і Лідзе, гэта бард з Гародні Віктар Шаўкевіч, гэта прадстаўнік найноўшай хвалі беларускай авангарднай паэзіі Юры Гумянюк, студэнт паланістыкі Гарадзенскага універсітэта. Шэраг можна прадоўжыць.

Апошнім часам у Гародні з'явіўся польскамоўны друк, у якім сцвярджаецца *аб польскім адраджэнні на Беларусі.* Я чамусь не ведаю ягоных лідэраў, ніколі іх не сустракаў, хоць у Гародні і Менску ўсе культурныя барацьбіты — навідавоку. Зрэшты, можа, калі каго прыпадкова й бачыў, чуў або чытаў у газеце «Гродненская правда», дык з таго часу імёны і прозвішчы маглі змяніцца: *Ларысы сталі Лаўрамі,* Юрасі — Ежымі, Федзі — Тадэвушамі і да т. п. Але, пэўна, гэта ўсё тутэйшыя людзі, «крэсовыя», як яны сябе самі вызначаюць. Бо «крэсо» — гэта нешта, відаць, асаблівае для іх, як паняцце нацыянальнае, патрыятычнае. Я, прынамсі, з дзяцінства такога сакраментальнага слова *не чуў і яно ў маёй пальшчызне ні з* чым не асацыюецца. Упершыню дачуўся аб ім з «крэсовага» друку, мяркуючы па якім гарадзенскія палякі мараць «адраджаць польскасць» незалежна ад сувязей з беларушчынай. Яны песцяць свой настальгічны міф аб гісторыі, культуры і іншых дзеях на той зямлі, дзе *разам з імі жывуць і яе гаспадары* — беларусы. Уся прапаганда таго міфа канцэнтруецца на ідэалізацыі даваеннага жыцця «за палякамі» і тагачасных рэаліях, як кропкі адліку (ці як канчатковай мэты?) тутэйшага польскага руху. Мне даводзілася чуць успаміны розных людзей, што перажылі той «залаты час», *але яны не падаліся мне вельмі пераканаўчымі,* прывабнымі. Тут ёсць свае «але», як і ў наіўных байках пра тое, як добра было жыць «пры камуністах», калі і кілбаса была, і пілі, і елі, што хацелі... Да 1939-га года многія чамусь упарта жадалі, каб Польшча згінула, і спрабавалі праводзіць супраць яе эка*намічны байкот, не набывалі тавараў,* а ўсё, што можна было вырабіць, рабілі саматугам, гадамі не плацілі падаткаў, ажно покуль чыноўнікі не цягнулі з падворку жывёлу за рогі ў якасці пакарання і да т. п. Як можна пагадзіцца з тым, што ў наш час, калі фашызм усіх афарбовак ва ўсім свеце даўно аб'яўлены антылюдскай палітыкай,— пад выглядам «польскага патрыятызму» рамантычна гераізуецца пілсудчына і акаўшчына, замест ейнага пакаяння і прызнання віны перад уласным народам і суседнімі. Пакаянне лагічна і маральна выцякае са злавеснай гісторыі гэтых генацыдных з'яў—акаўшчыны і пілсудчыны... Ці ж магчыма адбудоўваць польскі флігель у новым беларускім доме, пачынаючы з такіх вось падмуркаў?

Неадназначна я ўспрымаю зараз і з'яўленне першых польскіх класаў пачатковых школ на Беларусі, хоць гэта, канешне, нармальная з'ява ў культурным жыцці. Цешыць, што яшчэ нехта далучыцца да пальшчызны больш чым на самаадукацыйным, дылетанцкім узроўні, і, можа, у будучым прынясе якую-кольвек карысць на ніве новых і больш паўнавартасных беларуска-польскіх зносін. Але не пакідае й трывога за маленькіх і недасведчаных дзетак, каб іх не выхоўвалі ў штучнай ізаляцыі або варожасці да ўсяго беларускага. Што іх тады чакае, як не перспектыва адчуваць сябе этнічна-чужой меншасцю на ўласнай зямлі?..

**Ю. З.** Тут многае будзе залежаць ад таго, як будзе пасоўвацца ўласна беларускае культурнае адраджэнне, наколькі ягоны магнетызм зможа ахінуць беларускую дыяспару... Нас тут цікавяць фактары, спрыяючыя выбару на карысць беларушчыны. Але, мабыць, напачатку варта зрабіць экскурс у мінулае. Як вядома, Беларускі народны фронт у 1988 годзе стварылі беларускія інтэлектуалы — духоўныя апазіцыянеры часоў застою. Яны ж за часамі «перабудовы» разгарнулі асветную работу, зместам якой была прапаганда ідэі незалежнасці. Ты таксама апынуўся ў навейшай плыні беларушчыны. Як, на тваю думку, гэтая плынь нарадзіцца магла і нараджалася ў нетрах застою, у паліцэйска-стукацкай дзяржаве?

**Я. Ш.** Каб уявіць, як пачынаў пульсаваць і прабіваўся на паверхню жыцця апазіцыйны струмень незалежнай беларушчыны, *можна прыгадаць* вобраз асфальту, праз які з цягам часу ўсё вальней цягнецца да святла незнішчальная зеляніна,— адсоўваючы, узрываючы вялікія кавалкі маналітнай масы, што скоўвала яе натуральны рост. Далікатная раслінка перамагае несакрушальную цвярдыню, якую ледзь-ледзь расколвае *адбойны малаток... Рэч, аднак,* у тым, што карані раслінкі набіраюцца моцы ў жыццядайнай глебе, якая заўсёды зможа «бетон».

Здавалася, непрабівальным пластам бетону было ўкатана *і наша* духоўнае жыццё, стрыножанае ўсепранікальнай уладнасцю. Але ў любых умовах знаходзяцца асобы, адзінкі ці невялічкія купкі анадумцаў, якія распачынаюць свідраваць, тараніць «бетоннае неба» і зазвычай аказваюцца ў няроўным сутыкненні мацнейшымі. Чаму так адбываецца? Жыццё нельга доўга ўтрымаць у стане нейкай штучнай застыгласці. Праўда, патрэбна, каб нехта быў ПЕРШЫМ, хто ўздыме свой голас і пачне разбураць прыгожа-пачварныя ідыліі, не баючыся ідэалагічнага прэсінгу, стукацтва, дэзінфармацыі, маладушша і здрадлівасці, палягаючы толькі на сябе. Была ж такая агідная звычка ў нашым соцыуме паляваць на кожнае «незаконнае» слова, самастойную думку, самаіты погляд на рэчы — сыканнямі і рыканнямі кшталту «Ты чиво антисоветчину несёшь?!», «Нету на вас Сталина!», «Пора сообщить куда следует, а там разберутся!» і да т. п. І таму многія жылі, існавалі, хаваючы голаў у плечы, насцярожана аглядваючыся навокал, перш чым сказаць тое, што яны насампраўдзе думаюць. Многіх зманьвала тады перспектыва лепшых умоў, дабрабыту, асабістага поспеху, і дзеля гэтага трэ было выглядаць лаяльным, «не высоўвацца», «трымаць нос па ветры» і г.д. Інакш цяжка было ўздымацца па службовых лесвіцах, прэтэндаваць на званне, пасаду, прэмію... Гэта трымала навуковую і творчую інтэлігенцыю ў такой жудаснай залежнасці, што толькі нямногія наважваліся страціць «перспектыву росту».

Але «беспасадавая» вядомасць усё ж *самая ганаровая.* Інтэлект, *які служыць* ісціне, а не абслугоўвае наменклатуру, знойдзе магчымасць праявіць сябе і без самацэнзуры, бо сапраўды каштоўнае — у навацыі і значнасці знойдзенага, даказанага, сказанага, а не ў афіцыйнай узнагародзе. Імёны такіх адважных, што ніколі не здраджвалі сваім прынцыпам, *ужо самі па сабе ўстрашалі* безаблічна-«заасфальтаванае» шматгалоўе, але сеялі адначасова і надзею — для тых, хто сумняваўся, перажываў, шукаў выйсця, цягнуўся як да ўзору да непрадажных абаронцаў беларушчыны Уладзіміра Караткевіча, Васіля Быкава, Зянона Пазняка. Вакол іх і пачала гуртавацца *нацыянальная свядомая* грамада. Можна нават было быць асабіста незнаёмымі, але ведаць адзін аднаго па публікацыях, выступах, знаходках, выставах і адчуваць, што лік аднадумцаў павялічваецца. Паліцэйска-стукацкая служба па сваёй прыродзе не магла зразумець гэтага духоўнага ажыўлення, *бо з куды большым імпэтам* займалася здабываннем для сябе новых кватэр, мэблі, дачаў, курортамі, замежнымі выездамі і, мабыць, думала, што ўсе «нармальныя» людзі таксама мараць толькі пра гэта і не спакусяцца пайсці ўслед за беларускімі дзеячамі, якія не абяцалі тады ніякіх матэрыяльных даброт.

А між тым у ціхай Беларусі спакваля, а потым усё больш адчувальна пачала кансалідавацца крытычная маса грамадскасці, складвацца ядро нацыі. Крытычны момант, калі лідэры інтэлігенцыі аб'ядналіся з людам без чыноў і званняў у адной арганізацыі,— стварэнне Беларускага народнага фронту «Адраджэнне» чатыры гады таму ў помным кастрычніку 1988-га. Як тады ні тужылася самаўпэўненая вярхушка, каб забараніць і пакараць гэты рух, але ўсё адбывалася наадварот і вельмі хутка. Новая культурная дэмакратычная плынь бярэ пачаткі ад незалежных беларускіх вытокаў і нясе ў сабе ўсе трывогі, клопаты, каб пазбавіць нашу зямлю ад ганебных рэшткаў нядаўняга прыгнёту. *Яна ж валодае яшчэ не ўжытай энергіяй дзейнасці,* бо не для таго яна паўстала і прайшла такі няпросты шлях, каб зараз сцішыцца і спыніцца.

Мне ніколі не мроілася, каб самааддана прысвяціць сябе толькі ўладкаванню ўласнага жыцця, хутчэй бегчы займаць чаргу за машынай, гарэлкай, кілбасой і іншымі рэчамі, без якіх ўвогуле *можна абысціся, таму выбар, з кім быць* і з кім ісці, не так і цяжка было зрабіць. Напярэдзе ўжо крочылі годныя і таленавітыя асобы, што мелі магчымасць быць самімі сабой і прэтэндавалі не на «крэслы», а на тое, каб цягнуць воз беларушчыны. Як жа было не падтрымаць сумленных і цяглавітых, калі толькі поруч з імі, падзяляючы агульны цяжар трывог і абавязкаў, можна было адчуць сябе патрэбным справе, прадстаўніком культуры, *а не кан'юнктуры.* З уласных уражанняў з таго «заасфальтаванага» ўчарашняга па сённяшні дзень не забываецца тая нічым не затушаная ўпэўненасць у неабходнасці культурнай беларусізацыі-адраджэння, якой былі запалены, хварэлі і зараджаліся абраныя лёсам, хоць ніхто не спадзяваўся, што калі-небудзь сімвалы незалежнасці стануць нарэшце дзяржаўнымі. І гэтая цяжка вытлумачальная з прыгматычнага пункту гледжання надзея — таксама адзін з феноменаў жыццёвасці плыні, якую не ўдалося растаптаць і знішчыць нават у такой антыкультурнай бюракратычнай дзяржаве, у якой мы жылі і жывем пасюль.

**Ю. З.** Якую ролю ў аднаўленні беларушчыны сыграла беларускае мастацтва? У цябе як мастацкага крытыка няма трывогі за тое, што ва ўмовах адсутнасці драматызму жыцця — у якіх акрыйвала беларушчына ў 70-я гады — не будзе каму прадоўжыць гэтыя самаахвярніцкія высілкі?..

**Я. Ш.** Ва ўмовах бэсэсэраўскага таталітарызму нацыянальна свядомае мастацтва ратавала нацыю ад поўнага духоўнага разлажэння, да якога яе прыгаварыла камуністычная палітыка. Перш за ўсё трэба было бараніць, асвятляць гістарычную памяць, якую найболей выкасавалі з грамадскай свядомасці. Мастак у адрозненне ад літаратара ці гісторыка не залежыць ні ад цэнзара, ні ад рэдактара ў выдавецтве. Ён сам можа вырашаць, што і як намаляваць, якую тэму абраць. І на яго твор будуць глядзець з аднолькавай увагай тыя, хто валодае беларускай мовай, і тыя, каго ад мовы адвучылі. У мастацтва свая агульназразумелая выяўленчая мова.

(Працяг на стар. 14—15).

# МЕТАФІЗІКА БУДУЧЫНІ

(Пачатак на стар. 1, 5, 12).

Наступ нацыянальнай тэматыкі ў мастацтве можна адлічваць ад 1972-га года, калі ў Мінску былі ўстаноўлены помнікі Янку Купалу і Якубу Коласу. Стратэгія гэтага наступу, калі так можна сказаць, спантанна, спакваля складвалася ў інтэлектуалаў-аднадумцаў, у іх гарачых спрэчках у майстэрнях, у вандроўках па роднай зямлі. У нас, прабачце, дагэтуль няма багемных умоў, дык нацыянальная эліта збіралася нат на вясковых сцяжынах, у самых неверагодных закуточках, каб абмеркаваць самае набалелае, падзяліцца адкрыццямі і знаходкамі, якія прыадчынялі гістарычную праўду.

Пакінем без каментарыяў мастацкі ўзровень згаданых помнікаў. Галоўнае, што яны з'явіліся, адыгралі важную ролю ў прапагандзе нацыянальнай культуры. Потым мастацтва ўжо больш арганізавана і паслядоўна здабывала прыступку за прыступкай да храма нацыянальных традыцый і каштоўнасцяў. Этапным быў 1976-ты год — 100-я ўгодкі Цёткі. Выстава нацыянальна свядомых творцаў. 1980-ты год — выстава да 500-годдзя Міколы Гусоўскага. Потым юбілейныя імпрэзы да 100-гадовых угодкаў М. Багдановіча, В. Дуніна-Марцінкевіча, К. Каліноўскага і інш. Выставачная традыцыяператварылася ў адзін з самых наступальных і рашучых фактараў нацыянальнага прарыву ў беларускім мастацтве бліжняга дваццацігоддзя. Разбураліся зоны маўчання вакол вялікіх культурных эпох і слаўных імёнаў. Ніхто з «ліквідатараў» таталітарнай блакады культуры не атрымоўваў ганаровых грамат ці дыпломаў — скрозь спагнанні і непрыемнасці. Але перанесеныя крыўды акупляліся маральнай кампенсацыяй: бо нягледзячы ні на якое зло, можна было даносіць да неабмежаванага кола людзей выпакутаваныя вобразы, ідэі, звесткі, без якіх нацыя не зможа існаваць як такая і ператворыцца ў біялагічную масу.

Змаганне за розум і сумленне людзей працягваецца, і гэта можна назіраць на кожным кроку. Тым не менш высілкі мастацтва не былі дарэмнымі і гады патрачаны не ў пустэчу. Мастацтва дачакалася істотных перамен у відочным жыцці — перамен, якія раней здаваліся толькі недасяжнай мрояй на палатне, паперы ці ў бронзе. Наўрад ці сталіся б перамены апошніх чатырох гадоў у Беларусі, каб мастацтва па-асветніцку не даводзіла, што такое старажытнае дойлідства, нацыянальны тыпаж, каларыт, родны падворак, кут, ганак, радзіма, маці, народ, гісторыя, незалежнасць...

Цынічная іронія ўчарашніх змагароў супраць беларушчыны ў мастацтве не здзіўляе (маўляў, гэта «не мастацтва», гэта «кан'юнктура навыварат» і да т. п.). Што ж ім зараз рабіць, як не прафанаваць тое, чаго не ўдалося знішчыць? Засмучае і пазіцыя той часткі моладзі, якая яшчэ не навучылася думаць самастойна, а ўжо з надзвычайнай лёгкасцю пляжыць здабыткі папярэднікаў, як «антымастацкія» і «не патрэбныя». Моладзь раіць старэйшым жыць без турбот, абавязкаў і заклапочанасці — гэта неверагодна! Кожны, аднак, выбірае, што яму бліжэй. Хто прымае зручную спажывецкую філасофію ўладкаваных і самазадаволеных, той не можа быць маладым, нават калі яму няма й дваццаці год, бо маладосць — гэта рызыка, гарэнне, барацьба, антыпрагматызм, адчайнасць і жаданне перамен. Гэта перш за ўсё стан душы. І калі гэтымі якасцямі не ў стане запаліцца прадстаўнікі малодшага пакалення, хто цэліць патрапіць адразу ў «разважныя пенсіянеры», тады яны прыдадуцца як другое дыханне старэйшым па ўзросце, але маладзейшым душою, — каму гэтая энергія патрэбна для далейшай творчай дзейнасці.

Тыя сутнасныя, глабальныя перамены, што прагназавала мастацтва, яшчэ не здзейсніліся, аднак значна наблізіліся, і патрэбен наступны прарыў, каб яны сталі зусім рэальнымі. Дайсці да гэтай святой мэты першымі, відаць, прыйдзецца тым жа рупліўцам, хто за свае папярэднія намаганні як узнагароду атрымаў «другую маладосць»...

**Ю. З.** Цяпер паразважаем над узаемасувяззю мастацтва і «перамен». Ты кажаш, што мастацтва прагназуе, як бы рыхтуе перамены ў жыцці. Тут, мне здаецца, узнікаюць два аспекты дзеля роздуму. Па-першае, што разумець пад паняццем «перамены», па-другое, якімі сродкамі іх рыхтуе мастацтва.

**Я. Ш.** Гэта перамены самага шырокага, светапогляднага, эстэтычнага, палітычнага і, нарэшце, касмалагічнага характару. Але пры ўмове, што гэтыя перамены прадказвае мастацтва ад Бога і ад нацыянальных вытокаў, роднай глебы,— яго нельга атаясамляць па вонкавых прыкметах віду, жанру, тэхнікі выканання з акадэмічным рамесніцтвам, узрослым на меркантыльным жаданні атрымаць вялікія грошы на заказной тэме. Гэта кан'юнктура — залежнасць выканаўцы ад заказчыка, дзе няма праўды нават у адносінах да сучаснасці, не кажучы ўжо пра будучыню. Гэтаксама яе, праўды, нельга знайсці там, дзе пануе прага выклікаць сенсацыю, выцыганіць грошы ў наіўных правінцыяльных аматараў вострых уражанняў у выяўленчай сферы (калі іх не стае ў звычайным жыцці). Спекуляваць на нібыта суперавангарднай уседазволенасці яшчэ даволі лёгка, таксама як рабіць поўны касавы збор, зараджаючы абстрактныя карціны «магічнасцю», «касмічнай энергіяй», «чарамі» і да т.п.

Мастацтва ўсіх часоў і эпох, ад першабытнасці і да сучаснасці,—перш за ўсё таямніца, загадкавы рытуал самавыражэння асобы. У гэтым немагчыма разабрацца да канца, растлумачыць... Паверце, сапраўднае мастацтва робіцца не для грошай і папулярнасці, а дзеля заспакаення ўласнай псіхалагічнай патрэбы, без чаго не можа жыць творчая індывідуальнасць. Хлусіць самому сабе, падпарадкоўвацца чужой волі ці загаду ў творчым працэсе для іх непрымальна. Яны факусуюць у сваіх уражлівых натурах увесь свой час, але могуць выявіць і мінулае і тое, чаго яшчэ не было. Такія незвычайныя людзі былі заўсёды і ёсць зараз, гэта, відаць, абумоўлена чалавечай прыродай. Тое, што яны ствараюць, у тым ліку і ў выяўленчых формах, і ёсць мастацтва, якое не маніць. Яно ў сабе мае многае ад прадчування, прагназавання будучыні. Перажываючы рэчаіснасць у пачуццёвых вобразах, яно як бы рыхтуе сваё пасланне наперад, шыфр, закадзіраваны ў сімвалах і знаках, зразумелых ці не зразумелых, якія, аднак, будуць лёгка прачытвацца праз *тысячагоддзе... Мастацтва заўсёды* нешта парушае, не трымаецца прынятых стандартаў, пераходзіць межы дазволенага. Яно зазвычай апярэджвае свой час. Чым больш адораны творца, тым большы яго адрыў ад сучаснікаў і іх непрызнанне, кпіны, адмаўленне нават звацца яму мастаком. Сёння цяжка зразумець, чаму пры жыцці мастакоў так негатыўна ставіліся да вобразаў Ван Гога, Рэмбранта... Але прайшоў час—і поўнае захапленне! Усім падабаецца, не выклікае сумненняў, лічыцца класічным. І, відаць, у іх спадчыне не ўсё яшчэ спасцігнута, мабыць, нешта больш глыбока зразумеюць у наступных стагоддзях.

У мастацтва, як мне здаецца, у адрозненне ад дакладных метадаў даследавання будучыні, дзе нельга абысціся без тэхнічных прыстасаванняў, — самыя універсальныя сродкі ўздзеяння, візуалізацыі, прыбліжэння, асэнсавання. Яго карцінная плоскасць, сцэнаграфія, трохмерная скульптурнасць і іншыя магчымыя матэрыялізаваныя гняздоўі ідэй —у пэўным сэнсе мадэль той футуралагізаванай рэальнасці, да якой будуць набліжацца і мо прыйдуць наступныя пакаленні гуманоідаў—праз перажыванні, звязаныя з кантактам з мастацтвам. Агульна гэта можна акрэсліць як працэс глабальных перамен.

Без мастацтва паўнавартасна перажыць свой час немагчыма. Яно пакідае адбітак гэтага часу, які потым можа даць стымулы для новых пераўтварэнняў. Што б мы ведалі аб Антычнасці ці Рэнесансе, каб не іх найвышэйшыя мастацкія ўзлёты? Тагачасныя творцы між іншым пры вырашэнні чыста мастацкіх задач займаліся і праблемамі, якія далі пачаткі многім навукам. Яны былі як возніцы на квадрыгах, што перамагалі ў спаборніцтве з часам, а за імі ўжо гнаўся абуджаны і натхнёны імі свет.

Рэзюмуючы сказанае, сфармулюем выніковую думку так: перамены перш адбываюцца ў вобразнай ідэальнай сферы, а пасля ўжо здзяйсняюцца на зямлі.

Гэтым самым мастацтва стаіць ля вытокаў абстрактнага мыслення, магчымасці ўсведамляць жыццё фізічнага і духоўнага светаў, і ў гэтым заключаецца яго касмалагічная вышэйшасць, звязаная з фармаваннем гарманічных адносін чалавека да вечнасці і сусвету. Такая скіраванасць мастацтва пачынае прасочвацца ўжо з архітыповых адлюстраванняў звяроў і жанчын-багінь, што пакінулі па сабе пячорныя творцы. Ад Старажытнасці да Новага Часу мастацтва тым і займалася, што набліжала да чалавека ідэалы і ўзвышала яго да ідэалаў. Калі мастацтва Адраджэння дапамагло чалавеку ўсвядоміць яго універсальную гуманістычную дасканаласць на ўзор Бога, яно падштурхнула яго да ўсебаковай дзейнасці на ніве спазнання матэрыяльнага і духоўнага светаў. Зараз, калі свет імчыць у бясконцых змяненнях у будучыню, калі дзесяцігоддзі па ліку перамен абганяюць якія-колечы стагоддзі,—толькі мастацтва сваімі рознастылёвымі, рознамэтавымі намаганнямі можа гэты свет найбольш зразумець, разгледзець, прывесці да гарманічнай раўнавагі і скіраваць жыццё туды, дзе ёсць шанц выжывання і эвалюцыі.

**Ю. З.** Але ўсё-такі: які сэнс ты ўкладваеш у вызначэнне сучаснага моманту як «пераломнага» і «пераходнага»? Калі браць на ўзроўні касмічным альбо метафізічным — гэта пераход АД чаго і ДА чаго?

**Я. Ш.** Варта, на мой погляд, часцей хадзіць на пляц Незалежнасці, назіраць за паводзінамі розных людзей, каб скласці сваё ўласнае меркаванне аб тых працэсах, што адбываюцца апошнім часам. У іх няма староннiх гледачоў-назіральнікаў: усе свядомыя альбо несвядомыя ўдзельнікі падзей, ніхто не можа схавацца за імідж «нейтральнасці», «незаангажаванасці». Надыходзіць пара паказваць сябе такімі, якія мы ёсць. Гэта адна з асаблівейшых прыкмет часу, які сапраўды найтрапней назваць пераходным: ад таго, што было ў трывалай нязменнасці, ад ладу жыцця, комплексу ўяўленняў, — да яшчэ няспраўджанага, неакрэсленага, у пэўным сэнсе цьмянага, але непазбежнага будучага.

Мяжа, ад якое пачаўся пераход да новага, з кожным днём усё больш аддаляецца. Для мяне гэта было 19 кастрычніка 1988-га года, калі быў прылюдна абраны адным з сяброў аргкамітэта БНФ «Адраджэнне», і пачаўся пераход — разам з сябрамі і аднадумцамі—да таго, што ўжо часткова адбылося, і што яшчэ мае адбыцца. Між іншым, засталіся і такія рэтра-арыгіналы, *каму патрапіла спыніцца перад той* мяжой, псіхалагічна не здужаўшы пераступіць яе. Яны зараз існуюць у дзіўным, вартым жалю стане загіпнатызаванасці, калі ілюзіі старога мацней за рэальнасці. Ёсць і такія, што хутка збочылі, сышлі з дыстанцыі і памкнулі недзе за сваімі асабістымі інтарэсамі, найчасцей матэрыяльнымі. *Іх адолеў страх,* што не паспеюць у час дэфіцытнай ліхаманкі стаць мільянерамі... Але большасць людзей ужо адчулі, што старога не вярнуць і з надзеяй пацягнуліся за тымі, хто моцна апярэдзіў іншых не ў матэрыяльным, але ідэйна-ратункавым сэнсе.

*Калі нашыя, беларускія падзеі* накласці на храналогію агульнаеўрапейскіх змен, дык выявіцца шмат, на мой погляд, ідэнтычнага, нават сінхроннага. Уся Еўропа мяняе сваё аблічча з той запраграмаванай паслядоўнасцю, як на дрэвах увесну вырастае новая лістота. Спыніць гэты поступ вясенняга абуджэння *немагчыма—тым больш гвалтам* і крывёю. У грамадскім эвалюцыяніраванні Еўропы аджылыя нормы, прынцыпы, формы, звычкі, пазіцыі і інш. адсыпаюцца ў глабальным маштабе, але зараз такі момант між старым і новым, што яшчэ яўна не адчуваецца перавага новага. Таму і страхі вялікія, трывога, *напружанне.* Еўропа зараз — эпіцэнтр сусветных змяненняў, тут многія працэсы праходзяць у самай сканцэнтраванай і інтэнсіўнай форме, тут знаходзіцца іх буйнейшы нервовы вузел. Калі яны вырашацца на гэтым плацдарме выпрабаванняў — дык засвояцца і пашырацца на ўсіх іншых кантынентах. І адбудзецца гэта, пэўна, да канца стагоддзя. Такі цыклізм сусветнага развіцця, што напрыканцы аднаго стагоддзя нараджаецца новае (80-я—90-я гг.), затым яно цалкам пераадольвае колішняе, вызначае кірункі, што ў першай-другой палове веку развіваюцца, сутыкаюцца, ствараюць нечаканыя праблемы, канфлікты, вычэрпваюцца, затухаюць і даюць ход якасна іншаму, што ўжо назапашваецца ў іх позняй, сінтэзаванай фазе. І так увесь час—без супынку.

Калі бачыць метафізічную аўру працэсу, дык можна ўлавіць тэндэнцыю ад палярызаванасці настрояў да духоўнай міласэрнасці. Сэрцы стаміліся ненавідзець і прызнаваць толькі сваё... Адчувальныя памкненні да ўзаемаразумення і ўзаемаўзбагачэння. Зараз на адной частцы зямлі — гора, галеча, пакуты, азвярэласць, на другой — дабрабыт, шчасце бесклапотнага існавання. І адно і другое — не ёсць для чалавека ідэальнае, бо чалавек істота гарманічная, звязаная з космасам праз духоўную суладнасць і біялагічную раўнавагу свайго існавання. У шчасці павінна быць і кропля цярпення, а ў пакутлівасці пераважаць не безнадзейнасць, а высакародная мэта. Зараз у еўрапейскім метафізічным клімаце адбываецца змяшанне, як у тэмпературы, пакутліва-студзёнага і горача-камфартабельнага. У натуральным цяпле добрае мае большыя шансы для развіцця, а злое—курчыцца і затухае...

Людзі на адной шостай частцы свету досыць нацярпеліся і за сябе і, мабыць, за наступныя пакаленні, літаральна выпакутавалі жаданне лепшага гуманнага жыцця. Ды не мы першыя і не мы апошнія, каму наканавана перажываць пераходы і пераломы ў грамадскіх працэсах. Напрыклад, у канцы XV стагоддзя ў Еўропе панавалі апакаліпсічныя настроі, але, як потым высветлілася, духоўна - змрочная эпоха скончылася, а распачалося Вялікае Адраджэнне. І яго геніяльны сын Альбрэхт Дзюрэр, які з маладосці сам быў удзельнікам таго «пераходнага» перыяду і ўсё перажыў і бачыў, потым, калі прайшлі гады, стварыў медзярыт «Райтар, смерць і д'ябал» (1513 г.). Кашчастае страшыдла там патрасае пясочным гадзіннікам, рагаты—у выяве казла—зманьвае сумненнямі, страшыць нечаканасцямі. А райтар, вершнік, цярплівы і мужны, трымае лейцы свайго каня і рухаецца наперад...

**Ю. З.** Рухаемся наперад—незалежна ад свайго настрою і жаданняў—і мы. Правакуе гэты рух як ва ўсе часы палітыка, палітычная дзейнасць сучаснікаў. Мы міжволі звяртаем на іх увагу, спрабуем зразумець іх памкненні, глядзіш—і ўжо цягнемся да іх, робімся палкімі прыхільнікамі таго ці іншага кірунку. Кажу «мы», маючы на ўвазе, натуральна, шараговага грамадзяніна, заложніка вось гэтай самай палітыкі. Але выклікае здзіўленне актыўная палітызацыя сферы мастацтва, якое з-за гэтага пазбаўляецца свае метафізічнае напругі і, калі заўгодна, духоўнае цнатлівасці... Мабыць мастак узроўню Марачкіна ці Куліка ўсё-такі не павінен пісаць палітычныя лозунгі і карыкатуры... Наколькі гэта арганічная з'ява — палітызацыя беларускага мастацтва ад другой паловы 80-х гадоў?

**Я. Ш.** Звычайна «палітызаванасцю» азначаюць нешта быццам прымітыўнае ў мастацтве. Гэта зручнае тэрміналагічнае клішэ, якім можна заштампаваць усё, што па розных прычынах не падабаецца, і ім зазвычай карыстаецца той, хто «палітыкай» не займаецца. Але па сутнасці *і раней і цяпер «палітыка»* ў мастацтве—гэта актыўная грамадзянская пазіцыя мастака. Хоць ніхто з мастакоў у Беларусі прафесійным палітыкам, дэпутатам альбо міністрам не стаў, у грамадскім дэмакратычным руху яны ўдзельнічаюць і ў параўнанні з пісьменнікамі і кампазітарамі іх тут значна *больш.*

У шчыльным судакрананні з праблемамі быцця народа беларускае мастацтва здолела спарадзіць такія нетрадыцыйныя актыўныя сродкі выразу, як спантанную каліграфію надпісаў, першабытна - умоўныя формы малюнка, сімволіку архаічна - вобразных колераў — *белага, чырвонага, чорнага,* фотамантаж, калаж і інш., а таксама гіпербалу, метафару, палітычную карыкатуру, жанр плакатнай ці часопіснай графікі. Пасля масавых шэсцяў і акцыяў у абарону правоў народа, яго гістарычнай памяці—з дасканалай, зазначым, «рэжысурай» і выкарыстаннем неардынарных *мастацкіх сродкаў выразу — сотні* тысяч удзельнікаў апроч іншага разумелі, якую моц пазітыўнага ўздзеяння нясе ў сабе спалучэнне грамадскай акцыі з формамі хэпенінга, пэрформэнса. Мабыць, зараз ужо не трэба перакладаць гэтыя англамоўныя тэрміны, бо ў беларускага мастацтва ёсць свае адпаведнікі — *акцыя «Дзяды», «Чарнобыльскі Шлях», «Прысяга»* і інш. Прафесійнае мастацтва натхніла сваім прыкладам і ананімную аматарскую дадаістычную творчасць, дзе пафас адмаўлення даведзены да крайняга абсурду і шокавага ўражання. Вянкі з калючага дроту да помніка Леніну — замест кветак; дамавіна КПБ, *што ўласнаруч зрабілі і прынеслі* па Менску дэманстранты, — унікальныя і ўжо гістарычныя факты актывізацыі стыхійнага вобразнага самавыражэння. Лозунгі, якія ўпэўненай рукой першакласнага еўрапейскага жывапісца маляваў колькі год таму Аляксей Марачкін і іншыя апазіцыянеры,—«Жыве Беларусь!», «Беларускай мове — дзяржаўнасць!», «Толькі Незалежнасць!» і інш., — рэчы эпахальныя для Беларусі і іх месца — у Нацыянальнай мастацкай

галерэі. Для прыкладу можна нагадаць акцыі вялікага нямецкага мастака Ёзэфа Бойса, які прымаў самы чынны ўдзел у руху «зялёных». Вынікі ёсць — Рэйн актыўна ачышчаецца ад бруду, а дэкларатыўныя творы мастака (так можна па-беларуску азначыць лозунгавы від актуальных творчых выказванняў) захоўваюцца ў музейных калекцыях Германіі як класіка 80-х гадоў.

Не бачу нічога катастрафічнага ў дэкларатыўным пашырэнні межаў сучаснага беларускага мастацтва, якое арганічна звязала сябе з актуальнымі праблемамі выжывання нацыі. Яно праз гэта ўзяло на сябе вялікую адказнасць і клопат, але прыдбала і вялікі творчы патэнцыял.

**Ю. З.** У Менску працуе суполка мастакоў «Пагоня», якая аб'ядноўвае мастакоў на платформе нацыянальнага Адраджэння. Ужо адбылося колькі выстаў гэтай суполкі — як у сталіцы, гэтак і па дыяспары. Але я зноў звярачаюся да праблемы творчай індывідуальнасці: мне здаецца, што паход «шчыльнымі радамі» дае плён хіба як форма асветніцтва, а для таленту ад такога паходу ніякай асаблівай карысці няма...

Альбрэхт ДЗЮРЭР. «Вершнік, смерць і д'ябал». Медзярыт. 1513 г. Метафара чалавечай драмы?

**Я. Ш.** З'яўленне разнастайных суполак, аб'яднанняў, згуртаванняў—гэта заканамернае аднаўленне натуральных форм культурнага працэсу пераходнага перыяду. Таталітарызм 30-х гадоў, каб мець манаполію ў вызначэнні, што можна, а што нельга дапусціць у мастацтве, літаратуры і г. д., на дзяржаўным узроўні забараняў суполкавую дзейнасць, стварыўшы цэнтралізаваныя «творчыя саюзы» з дыктатарскаю ўстаноўкай «кіраваць культурай»... У Саюз мастакоў імкнуліся да апошняга часу ўсе, хто быў з дыпломам прафесійнай падрыхтоўкі і меў хоць якія здольнасці, бо гэта была практычна адзіная магчымасць атрымаць майстэрню, заказ на мастацкі твор, працаваць творча і не хадзіць на службу. Якогась ідэйнага яднання членаў саюза ніколі не было. Існавалі няпісаныя падзелы на творцаў, кан'юнктуршчыкаў і звычайных афарміцеляў.

Такі афіцыёзны мецэнат ужо не змог дыктаваць свае ўмовы, супярэчнасці паміж «сябрамі па саюзе» пачалі агаляцца. Саюз, аднак, будзе існаваць да таго дня, пакуль будзе існаваць бюракратычная посткамуністычная дзяржава, якая яго калісь стварыла; іншым мастацкім «навародкам» яна мала чым дапамагае, наадварот — абкладае прыгонніцкімі падаткамі. Дэмакратычная дзяржава, якой пакуль няма, павінна спрыяць у першую чаргу арганізацыям і асобам, якія развіваюць культуру. Гэта і будзе, мабыць, сапраўдная культурная палітыка дзяржавы.

Зараз жа ўсё больш назіраецца працэс ідэйнай дэградацыі ў Саюзе мастакоў. Праблемы камерцыйна-вытворчыя прэвалююць над творчымі, мэта — выжыць любым коштам. І таму адзінка, якая жадае супрацьпаставіць сябе агульнаму нігілізму і абыякавасці, павінна шукаць сабе аднадумцаў. Статут «Пагоні» прадугледжвае сувязь якраз на творчай, а не камерцыйнай аснове, прычым няма якіх-колечы паленнасных ці то стылістычных абмежаванняў, «Пагоня» не адзіная суполка ў беларускім мастацтве. Прыгадайма віцебскую грамаду Сцвярджальнікаў Новага Мастацтва, у літаратуры —«Маладняк», «Узвышша» і інш. У час актыўных пераўтварэнняў, каб рухацца да пастаўленай мэты, трэба адчуваць сябе разам з сябрамі. Аднаму не справіцца і не развіць сваіх здольнасцяў. Кагось могуць зламаць жыццёвыя абставіны, іншых — жорсткія апаненты... Згуртаванне засцерагае ад «злому». Іншая справа, калі мэта дасягнута. Тады суполкі натуральным чынам знікаюць, распадаюцца, мастакі разыходзяцца і працуюць як прызнаныя мэтры паасобку. Такая прырода творчага суб'ектывізму. Але ў «Пагоні», як арганізацыі, час самасцвярджэння яшчэ наперадзе. Дый час такі, што больш згуртоўвае, чым раз'ядноўвае — асабліва гэта тычыцца людзей мастацтва.

**Ю. З.** Відаць, людзі мастацтва найбольш падуладныя фатуму самавызначэння, сэнс якога — у выбары паміж адзінотай і неадзінотай (нагадаем апавяданне А. Камю «Ёна, або Мастак за працай»). Знешняя рэчаіснасць дзеля гэтага выбару ўсё адно адыгрывае не першасную ролю... Паспрабуем наблізіцца да ўнутранай сутнасці беларускага мастацтва — паколькі мастацкая крытыка па вызначэнні ёсць самасвядомасць мастацтва. Лічачы і называючы беларускае мастацтва часткай сусветнай культуры, мы пакуль не абцяжарваем сябе ўдакладняць, канкрэтызаваць месца беларускага мастацтва ў мастацтве свету...

**Я. Ш.** Калі згуртаваць для аналізу ўсе картаграфічныя, гістарычныя, этнаграфічныя і іншыя дадзеныя, атрымаецца абсалютна дакладнае ўяўленне аб **цэнтральнаеўрапейскім** знаходжанні Беларусі. Адсюль вынікае, што беларускае мастацтва носіць цэнтральнаеўрапейскі характар і, трэба яшчэ дапоўніць, з паўночным ухілам. Асаблівасці беларускай прыроды, як і прырода на іншых тэрыторыях Балтыйска-Скандынаўскага рэгіёна, сфарміраваны сцюдзёным наступам ледавікоў, а яе аўтахтонныя жыхары-беларусы маюць у генезісе балцкі субстрат. Геаметрызму калектыўных форм народнага арнаменту ўласцівы архаічны і чысты рамбічны стыль, характэрны для Поўначы, і г. д.

Калі нам зараз трэба вызначацца ў свеце — а ён беларусу заўсёды быў цікавы, толькі сёння мы хочам убачыць і зразумець яго па-свойму без чужых каментарыяў,— дык найперш трэба звярнуцца ў бок Еўрапейскай Поўначы і скіраваць увагу да краін Скандынавіі, Бенелюкса й Нямеччыны, жыццё і характар народаў якіх вельмі падобныя, сугучныя для беларусаў. Назіраючы за «паўночнікамі», мы разгледзім і часцінку саміх сябе... Усе гэтыя паўночнікі маюць ураўнаважаны, «рахманы», спакойны характар і заможны лад жыцця. Для іх Балтыйскае мора — агульная «купель» цывілізацыі, культурна-гандлёвых зносін. Паўночная готыка і Паўночнае Адраджэнне, як і Гандзейская купецкая супольнасць, распаўсюджвалі свае ўплывы і па беларускай зямлі... Не дзіва, што гэтулькі з'яў яднаюць нас з тымі, хто жыве ў Осла ці Гамбурзе. Беларуская готыка — тыпова паўночная, беларуская кухня прыйдзецца даспадобы і бюргерам, і фермерам з ваколіц Любека ці Бруге, дзе добра ведаюць назвы і смак, аналагічныя шынкам, паляндвіцам, кумпякам ды іншым кулінарным дзівосам з Меншчыны ці Гарадзеншчыны. Хай сабе толькі на гістарычных абразах, але дагэтуль памятныя вуліцы Магілёва XVII ст., падобныя на брусельскія ці амстэрдамскія вуліцы шчыльнай франтальнай планіроўкай. Зусім невыпадкова персанажы «Вясковага вяселля» Пітэра Брэйгеля (Старэйшага) моцна нагадваюць жывых удзельнікаў сучаснага беларускага вяселля, хоць розніца між імі — у 500 гадоў...

Анарэ дэ Бальзак вельмі ўражваўся надзвычайнай цярплівасцю і рупнасцю да працы фламандцаў — нам гэта так блізка і знаёма! Нямецкі парадак, арганізаванасць — ідэал таксама і беларускага жыцця, да якога мы ўвесь час імкнёмся, хочучы быць гаспадарамі на нашае зямлі.

Каб быць еўрапейцамі, не трэба пнуцца няведама за якімі экзотамі і фешэнебельнымі модамі, павярхоўнымі манерамі. Трэба проста быць самімі сабой: культываваць, пашыраць, развіваць усё нацыянальнае і грунтоўнае, неперакручанае, гарманічнае для нашае ментальнасці. Характар і мастацтва беларусаў па паходжанні не могуць быць супярэчлівымі. З уласцівымі паўночнымі рысамі стрыманасці, узважанасці, наша мастацтва павінна паводзіць сябе па-цэнтральнаеўрапейску. Менавіта на гэтым грунтуецца і маё асабістае разуменне беларускай нацыянальнай мастацкай школы, яе спадчыны і перспектывы развіцця. Яна бачыцца зараз у трох асноўных паралельных кірунках, што ўзаемна дапаўняюць адзін аднаго, але ўзаемна не супярэчаць.

Першы хай не здаецца кансерватыўным. Гэта — асаблівасць цэнтра, у які ўсё раней-пазней сыходзіцца, тут назаўжды захоўваецца, не забываецца. Гэты кірунак мастацтва вырашае важную праблему пераемнасці, рэтрансляцыі і акумуляцыі формул агульнаеўрапейскай мастацкай традыцыі, і ён мае сваіх выдатных беларускіх творцаў-захавальнікаў. Першымі эпічнымі творамі еўрапейскай літаратуры былі «Іліяда» і «Адысея» Гамера. Апошнім — паэма «Новая Зямля» Якуба Коласа... Вялікім сінтэтызатарам, які ў сціплых, па-беларуску камерных жанрах партрэта і нацюрморта, абагульніў усё еўрапейскае жывапіснае мастацтва Новага Часу ад рэнесансу да рэалізму, быў наш творца Янка Хруцкі з Віцебшчыны. Яго Незнаёмкі-крывічанкі неспасціжна таямнічыя і па-леанардаўску шматзначныя... Беларуская флора ў кампазіцыях з садавінай і гароднінай — неўвядальнабарочная, рамантычная і класічная! Таму не трэба бачыць ніякага анахранізму, калі і зараз нехта з маладых творыць у рэтра-стылі: такая іх натуральная патрэба, абумоўленая традыцыйнай скіраванасцю творчых пошукаў.

Другі кірунак — кірунак авангардных стылістычных неалагізмаў. На беларускай глебе ён фармуецца зусім без спазненняў і другаснасці. Пасля залатога веку нацыянальнага іканапісу і свецка-шляхецкага жывапісу XV—XVIII стст. сучасныя наватарскія сродкі ў нас не могуць не адаптавацца і даць новы плён. Іх крайнасці, аднак, змякчаюцца, дысгармонія — гарманізуецца, адпаведна ментальнасці і задачам мастацкага цэнтрызму. Міхась Філіповіч — адзін з самабытнейшых творцаў мастацкай мадэрнізацыі — дае «адкрытыя лекцыі» ў кожным сваім партрэце і фальклорнай кампазіцыі. Сюды ж трэба аднесці і дэкларацыі мастацкага нонканфармізму.

Трэці кірунак — гэта зварот да аўтахтонных паганскіх вытокаў. Там абстрактнае, геаметрычнае, першаснае жывой крыніцай б'е ў народным мастацтве, у архаічных знаходках і разнявольвае настолькі, што дазваляе ўзняцца да супернаватарства. Рашучасць мэт, лакацізм і прастата сродкаў у канцэпцыі стылістычнага аўтахтанізму — максімальныя. Гэта закладзена яшчэ ў легендарных праграмах дзеянняў на пераўтварэнні свету рэчаў віцебскіх Сцвярджальнікаў Новага Мастацтва, выявілася ў гераічным перыядзе беларускага супрэматызму 20-х — пачатку 30-х гг. Гэтага не трэба забываць.

На маё меркаванне, творцаў, здатных здзяйсняць неабмежаваныя наватарскія задумы, сярод беларусаў не бракуе.

**Ю. З.** Што ж, тваё меркаванне пэўным чынам удакладняе хадульны афарызм «беларусы — нацыя паэтаў». Значыць, нацыя творцаў? Жрацоў прыгажосці?... Дык вось на заканчэнне гутаркі нагадаю выслоўе нашага славутага ў Расіі земляка Фёдара Міхайлавіча Дастаеўскага: «Прыгажосць уратуе свет». Перафразуем гэтае выслоўе ў форме пытання: «Ці ўратуе беларускую культуру мастацтва?» Што скажа на гэта крытык?

**Я. Ш.** Ніколі не сумняваўся ў выслоўі Ф. Дастаеўскага, гэтаксама як і ў тым, што мастацтва — самая пэўная гарантыя ратавання культуры. Былі і ёсць народы, якія бароняць ці сцвярджаюць сябе праз агрэсіўнасць, ваяўнічасць, але яны ніяк не здольваюць пакарыць увесь свет. усё адно прайграюць у развязанай імі бойцы і часта знікаюць назаўсёды: асірыйцы, грэка-македонцы, рымляне... Але ёсць народы, якія нікому не пагражаюць, аднак заваёўваюць свет сваёй духоўнасцю, культурай. Грэцыя перамагла Рым, Італія — германскіх вандалаў — Паўночная Францыя—нарманаў і г. д. Моц беларускага народа — не ў агрэсіўнасці, а ў культуры, што настоена на высокай духоўнасці і вырасла з глыбачэзных этнічных каранёў. Нездарма акупанты, калабаранты, здраднікі, ворагі жорстка распраўляліся з ёй: без культуры народ паддаецца на ўсё... Парадокс, але й зараз наша культура пад пільным наглядам нядобразычліўцаў, і не вельмі каб магла паказацца тутэйшаму люду, а тым больш замежжу. «Вартаўнікі» добра ведаюць, што калі выпусціць яе свабодна прайсціся па роднай зямлі, дык на пяску заквітнеюць ружы... Наш народ толькі праз культуру можа самым кароткім шляхам стаць моцным і духоўна здаровым. Ён даўно ўжо чакае гэтага культурнага звароту, але яму ўвесь час падсоўваюць нешта другаснае, знявечанае, пад нібыта яе выглядам, але не яе, не культуру... Вакол такія прыгожыя, высакародныя, чулыя твары, але ў свядомасць быццам заклалі якую касету і прайграецца дэструктыўная, дысгарманічная праграма, выклікаючы закатурханасць і затарможанасць людзей. Вось менавіта мастацтва — актыўнае і свядомае — бадай толькі адно і можа вывесці людзей, грамадства з гэтага стану.

Мастацтва, дарэчы, не чакае спрыяльных умоў, яно спяшаецца на мітынгі і памятныя вечарыны, нягледзячы ні на надвор'е, ні на адлегласць ад сталіцы да мястэчка. Намаганнямі яго творцаў узводзяцца крыжы і капліцы на магілах ахвяр сталінізму і помнікі дзеячам беларушчыны ад Навагародка да Падуі. Яно прыходзіць з першымі словамі малітвы ў адноўленыя вернікамі храмы — у выглядзе сучаснага іканапісу, фрэсак, культавай скульптуры. Пры дапамозе паліграфічных магчымасцей ажываюць старонкі мудрых кніг мінуўшчыны, тыражуюцца вобразныя каштоўнасці вялікіх часоў і эпох. Яно, мастацтва, зіхаціць урачыстай поліхраміяй і глыбінёй колераў у экспазіцыях Дзяржаўнага мастацкага музея. Але яно не прыйшло яшчэ да ўсіх, хто толькі напалову верыць, што ён — беларус. Спадзяюся, аднак, што неўзабаве прыйдзе. Уяўляю амаль дакладна — учора гэта была фантасмагорыя,— як па праграмах Нацыянальнага тэлебачання з калегамі крытыкамі, мастацтвазнаўцамі, мастакамі, філосафамі-эстэтыкамі звернемся да розуму і пачуццяў людзей, інфармуючы аб багаццях мастацтва, якое прыцягне і да ўласнай культуры, і да культуры свету. Якая спатоля штодзённа чуць і чытаць, дзякуючы сродкам масавай інфармацыі, не пра новыя злачынствы, а пра адкрыццё новых выстаў, тэатральныя прэм'еры, конкурсы, фестывалі. вернісажы. Цяпер жа як на сапсаванай пласцінцы: «старшыня Ш. сказаў тое...», «намеснік К. паехаў туды...», «сакратар Н. прыняў таго...»,— а пра мастацтва ні слова, хоць яно ў тысячу разоў адказней за ўсіх старшыняў разам узятых. Зрэшты, зразумела, чаму такая няміласць,— каб беларусы як мага марудней станавіліся беларусамі, якімі іх непазбежна робіць узздзеянне мастацтва... Але мастацтва ўрэшце прыйдзе да кожнага, нават праз зачыненыя дзверы. Ад яго немагчыма схавацца, як ад будучыні.

**Калектыў часопіса «Беларусь» выказвае глыбокае спачуванне намесніку галоўнага рэдактара часопіса Таісе Мікалаеўне Бондар з прычыны напаткаўшага яе гора — смерці МУЖА.**

# ГАЛОЎНАЯ БІБЛІЯТЭКА КРАІНЫ

**Сёлета ў верасні споўнілася 70 гадоў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі (былая Дзяржаўная бібліятэка БССР імя Леніна).**

З дзейнасцю НББ звязаны імёны найвыдатнейшых пісьменнікаў, вучоных, грамадскіх дзеячаў Беларусі. Яна ўнесла важкі ўклад у развіццё навукі, культуры і асветы, зрэшты—у станаўленне бібліятэчнай справы рэспублікі. Галоўным дасягненнем, з якім бібліятэка прыйшла да свайго 70-годдзя, з'яўляецца тое, што яна стала адной з самых «працуючых» бібліятэк Рэспублікі Беларусь.

Універсальны па зместу і вялікай храналагічнай глыбіні збор бібліятэкі ў 7 мільёнаў выданняў можа задаволіць складаныя запытанні. З 37 тысяч чытачоў 50 працэнтаў складаюць навуковыя работнікі і спецыялісты, 45—навучэнцы вышэйшых навучальных устаноў, 3—рабочыя.

У 13 чытальных залах НББ кожны дзень з 9-ці гадзін раніцы да 21 гадзіны могуць адначасова працаваць 900 чалавек.

Штогод бібліятэка рэгіструе каля 500 тысяч наведванняў, чытачам выдаецца звыш 3 млн. кніг, часопісаў, нот, карт, выяўленчых матэрыялаў, газет, рукапісаў, пласцінак. За год здымаецца 50000 копій.

Фонды НББ актыўна выкарыстоўваюць члены ўрада, супрацоўнікі Савета Міністраў, Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, дырэктары прадпрыемстваў, выкладчыкі ВНУ.

Тысячы выданняў штогод пасылаюцца па міжбібліятэчных абанементах чытачам у розныя раёны Беларусі і краіны СНД. НББ—надзейная база для фарміравання кваліфікаваных спецыялістаў ва ўсіх галінах ведаў.

**У бібліятэцы функцыяніруюць спецыялізаваныя аддзелы, што абслугоўваюць чытачоў і галіновыя чытальныя залы. Большая частка чытачоў запісваецца ў залы ў адпаведнасці з іх спецыяльнасцю, характарам працы. У той жа час у Мінску дзейнічаюць буйныя спецыяльныя бібліятэкі, профіль якіх супадае з профілем галіновых чытальных залаў: па тэхніцы, па медыцыне, па сельскай гаспадарцы, па прыродазнаўчых навуках і г.д. Такім чынам, стварыліся паралельныя бібліятэчныя комплексы.**

**Ужо зараз у выніку інтэграцыі навук запыты чытачоў, як правіла, выходзяць за межы вузкай спецыяльнасці, што тлумачыцца ўсё больш узрастаючым узаемапранікненнем навук. З гэтай нагоды супярэчыць патрабаванням жыцця наяўнасць галіновых чытальных залаў, запіс чытачоў па спецыяльнасцях, выдача літаратуры па профілю працы. Мяняюцца не толькі прафесійныя інтарэсы чытачоў, але і іх кваліфікацыйны і службовы статус, што таксама ўздзейнічае на інфармацыйныя патрэбы. Таму плануецца змяніць структуру сістэмы абслугоўвання, хаця сёння гэта вельмі цяжка зрабіць.**

Ці не галоўнай задачай у арганізацыі абслугоўвання з'яўляецца фарміраванне чытацкага кантынгенту. Менавіта ад яго залежыць палітыка камплектавання, структура абслугоўвання.

Усё часцей звяртаюцца навучэнцы тэхнікумаў, СПТВ, ліцэяў, каледжаў, школьнікі старэйшых класаў з просьбай даць магчымасць карыстацца фондамі Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі.

Разам з тым бібліятэка як нацыянальнае кнігасховішча і ўладальнік культурнага набытку народа не можа не быць агульнадаступнай. Яна ж вымушана неяк рэгуляваць паток жадаючых сюды трапіць, зыходзячы з абмежаваных магчымасцей аддзелаў па абслугоўванню чытачоў. Акрамя таго, НББ функцыянуе не ізалявана, а ва ўзаемадзеянні з бібліятэкамі Мінска. Усе гэтыя праблемы прымушаюць калектыў аддзела абслугоўвання рэгулярна праводзіць вывучэнне інфармацыйных запатрабаванняў асобных катэгорый чытачоў.

Зараз у НББ сумесна з буйнейшымі бібліятэкамі Мінска праводзіцца даследаванне «Чытач навуковай бібліятэкі і ўдасканальванне сістэмы яго абслугоўвання», асноўная мэта якога—распрацоўка навукова абгрунтаваных напрамкаў развіцця функцыі абслугоўвання чытачоў у адпаведнасці з сучаснымі і перспектыўнымі інфармацыйнымі патрабаваннямі нашага грамадства.

**Сёння супрацоўнікаў бібліятэкі хвалююць тыя ж праблемы, што і ўсіх нашых суайчыннікаў. І ў першую чаргу—нестабільнасць эканомікі, крызіснае становішча якой не дазваляе вырашаць у поўнай меры праблемы бібліятэк. У старых сценах вельмі цесна, не хапае плошчаў для размяшчэння фонду, няма належных умоў для работы чытачоў, поўнасцю адсутнічае механізацыя. Усё гэта не дазваляе правесці рэарганізацыю сістэмы абслугоўвання, змяніць структуру, тэхналогію, што дазволіла б значна павысіць узровень абслугоўвання.**

**Непакоіць пастаяннае скарачэнне паступленняў айчыннай літаратуры, бо скарачаецца колькасць кантрольных экземпляраў Кніжнай палаты, якія павінны рассылацца. Складваецца ўражанне, што ідзе паступовае разбурэнне механізма, які многія гады дазваляў забяспечваць камплектаванне фонду НББ. Неабходны закон аб абавязковым кантрольным экземпляры і арганізацыйныя меры, якія забяспечаць атрыманне бібліятэкай неабходных выданняў.**

**Апошнім часам пастаянна ўзнікаюць цяжкасці з падпіскай на кнігі і перыёдыку. З-за адсутнасці валюты бібліятэка не атрымлівае шэраг замежных выданняў. У перспектыве нам пагражае інфармацыйны голад...**

Але, нягледзячы на ўсё гэта, супрацоўнікі НББ імкнуцца максімальна задаволіць інтарэсы чытачоў. З кожным годам пашыраецца пералік платных паслуг. Вырučаныя сродкі ідуць на патрэбы бібліятэкі. З 1987 года адкрыты пункт прыёму заказаў па тэлефоне.

Зараз вядзецца распрацоўка шэрагу праграм аўтаматызацыі бібліятэчных працэсаў і іх укараненне. Аўтаматызацыя і тэхнічнае пераўзбраенне бібліятэкі, безумоўна, унясуць карэнныя змены ў традыцыйныя бібліятэчныя тэхналогіі, прывядуць да якасна новага абслугоўвання чытачоў.

У юбілейны год хочацца памарыць аб новым будынку Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, дзе будзе ўсё неабходнае як для супрацоўнікаў, так і для чытачоў: камп'ютэры, АРМ бібліятэкара, магутная капіравальна-размнажальная тэхніка, найноўшае тэхнічнае абсталяванне.

**Л. ПРАДКО.**

# У Ляўках, у Купалы...

**«Як добра, што ёсць такія мясціны, як Ляўкі, дзе можна сэрцам і душой адчуць сябе нашчадкам вялікай і цікавай гісторыі нашага краю, прайсці тымі сцежкамі, дзе хадзіў Купала...» Гэта толькі адзін запіс з кнігі водгукаў музея Янкі Купалы ў Ляўках, якому споўнілася 30 гадоў.**

**Ідуць сюды людзі розных узростаў, розных прафесій, з розных куткоў, ідуць турысты, госці, каб далучыцца да багатай Купалавай спадчыны. Па запісах у кнізе водгукаў можна вывучаць геаграфію: Масква, Кастрама, Адэса, Казань, Ташкент, Сыктыўкар, Італія, Югаславія, Польшча, ЗША...**

**Прыходзяць і тыя, што ўжо бывалі тут. Гэта сустрэча, напрыклад, адбылася не так даўно. Як звычайна, я вяла экскурсію. Турысты былі з Масквы. Здалося, што маладую пару дзесьці ўжо бачыла. Не стрымалася, запытала. Яны адказалі: «Так, мы трэці раз у вас. Вельмі падабаецца тут. Былі ў вас вясной, летам, прыехалі і восенню. Зараз адчулі тую «болдзінскую восень» паэта ў Ляўках».**

**У адзін з сёлетніх жніўеньскіх дзён насупраць музея калгасніцы падымалі лён. Пасля працы яны завіталі ў музей. Сказалі: «Прыйшлі ў госці да Купалы». Назаўсёды Купала застаўся жывым для ляўкоўцаў.**

**І на свята музея, якое адзначалася нядаўна, яны прыйшлі са сваімі ўспамінамі аб сустрэчах з паэтам. З цікавасцю прысутныя слухалі К. Міхайлаву, В. Яфрэмаву, старшыню калгаса імя Янкі Купалы У. Вялічку.**

**К. Баразнова расказала, як стварaўся музей некалі яна працавала тут на грамадскіх пачатках). Свае вершы прачытаў М. Дземідовіч з Оршы.**

**Са словамі ўдзячнасці да ляўкоўцаў, кіраўнікоў калгаса, супрацоўнікаў музея за тое, што яны шануюць памяць аб Купалу, захоўваюць гэты куточак, з любоўю адносяцца да гэтай мясціны, звярнуўся М. Дудалеў — намеснік старшыні райвыканкома. Шчыра і цёпла павіншавалі калектыў філіяла «Ляўкі» супрацоўнікі Літаратурнага музея Янкі Купалы з Мінска.**

**Фальклорны ансамбль Крапівенскай СШ выканаў беларускія песні, народныя танцы.**

**Л. УПЕНІК,**
**экскурсавод**
**музея-запаведніка**
**Я. Купалы «Ляўкі».**
Аршанскі раён.

**З ПОШТЫ «ЛіМа»**

# ВЯЛІКАЯ ГІСТОРЫЯ МАЛЫХ ПАСЕЛІШЧАЎ

Пры ўсеагульнай цікавасці да гістарычнага мінулага і пэўных захадах па зберажэнні культурнай спадчыны ў вялікіх гарадах куды меншая ўвага ўдзяляецца вывучэнню гісторыі і захаванню малых паселішчаў — вёсак, хутароў, былых маёнткаў і фальваркаў. Злачынная палітыка перасялення так званых «неперспектыўных вёсак» на цэнтральныя сядзібы прывяла да знікнення з мапы Беларусі многіх тысяч паселішчаў. Асабліва не пашанцавала сялянскім хутарам і шляхецкім фальваркам. У перыяды калектывізацыі яны падвергліся масаваму высяленню і поўнаму знішчэнню.

У галіне вывучэння і аховы нерухомых помнікаў гісторыі і культуры выдзяляюць наступныя віды аб'ектаў: помнікі гісторыі, архітэктуры і горадабудаўніцтва, археалогіі, прыроды і некаторыя іншыя. Але пад гэтыя катэгорыі помнікаў не падпадае мноства цяперашніх і былых паселішчаў, якія маюць багатае гістарычнае мінулае.

Найвялікшую гістарычную каштоўнасць сярод малых паселішчаў прадстаўляюць былыя шляхецкія маёнткі, фальваркі, засценкі і аколіцы з іх багатай, але пакуль яшчэ недастаткова даследаванай гісторыяй. Кожнае з гэтых паселішчаў уяўляе сабою комплекс жылых і гаспадарчых пабудоў. У буйных маёнтках жылая і гаспадарчая (фальварак) часткі нярэдка былі двума самастойнымі паселішчамі, падзеленымі ракой са ставам (напрыклад, маёнткі Шчучын, Жалудок Шчучынскага раёна Гродзенскай вобласці). А іншым разам акрэсленага падзелу не было (напрыклад, маёнткі Абадоўцы, Вязынь Вілейскага раёна Мінскай вобласці). Большасць маёнткаў і фальваркаў належала дробнай і сярэдняй шляхце, яны кампактна забудоўваліся і займалі невялікую тэрыторыю. Часта дробная шляхта з-за дэфіцыту ворнай зямлі аб'ядноўвалася ў аколіцы—своеасаблівыя шляхецкія вёскі са свабодным, нават хаатычным размяшчэннем сядзіб.

**Засценкі ўзніклі на Беларусі ў 2-й палове 16-га стагоддзя падчас правядзення аграрнай рэформы ў Вялікім княстве Літоўскім каралём і вялікім князем Жыгімонтам II Аўгустам. Гэта былі дзялянкі ў каралеўскіх маёнтках, што засталіся пасля падзелу зямельных угоддзяў на валокі, плошча якіх вымяралася дробавым лікам, ці размешчаныя на ўскрайках альбо няўдобіцах. Гэтыя дзялянкі аддаваліся часта ў арэнду, ці дараваліся каралём у валоданне шляхце за вайсковую службу. Пазней, падчас правядзення валочнай памеры і ў буйных магнацкіх вотчынах, там утвараліся засценкі, якія аддаваліся магнатамі ў карыстанне сваім васалам і сялянам. Гэтыя засценкі абжываліся і забудоўваліся жылымі і гаспадарчымі пабудовамі. Многія шляхецкія сядзібы ў маёнтках абкружаліся паркамі з усялякіх парод дрэў, упрыгожваліся малымі архітэктурнымі формамі.**

**Хутары на Беларусі пачалі ўзнікаць у 2-й палове 19-га стагоддзя пасля адмены прыгоннага права і аграрнай рэформы 1861 года, а асабліва бурны падчас Сталыпінскай аграрнай рэформы 1906—1917 гадоў, і пераважна належалі сялянству.**

**Некаторыя сядзібныя комплексы аб'яўлены помнікамі архітэктуры, паркі—помнікамі прыроды і садова-паркавага мастацтва. Але гэта адзінкавыя прыклады ў параўнанні з іх вялікім мноствам, большасць якіх маюць розную ступень захаванасці ці ўвогуле страчаны для візуальнага ўспрымання. Паселішчы—помнікі культуры гінуць і да цяперашняга часу. Напрыклад, па ўказанні старшыні калгаса імя Суворава, цэнтральная сядзіба якога размешчана ў вёсцы Лычкаўцы Галавічпольскага сельсавета Шчучынскага раёна Гродзенскай вобласці, у 1989 і 1990 гадах былі цалкам знішчаны сядзібы былых маёнткаў Лычкава і Нявіша, вядомых па дакументальных крыніцах з 16-га стагоддзя (у першай—сцены паўразбуранага мураванага палаца, у другой—драўляны панскі дом). Таксама былі дашчэнту выкарчаваны вялікія паркі з векавымі дрэвамі. І робіцца гэта варварства ўсяго толькі дзеля павелічэння пасяўных плошчаў, а часцей і без дай прычыны. І колькі такіх прыкладаў толькі за апошнія гады!**

Для захавання рэшткаў былых паселішчаў і прадухілення знішчэння існуючых варта ўвесці тэрмін «гістарычная мясцовасць ці паселішча» і замацаваць яго «Законам аб культурнай спадчыне», выявіць усе былыя і існуючыя паселішчы і адзначыць іхняе знаходжанне спецыяльнымі шыльдамі з указаннем назвы і, па магчымасці, з датай узнікнення ці першага ўпамінання ў дакументальных крыніцах. Дзеля гэтага трэба пачаць шырокамаштабнае вывучэнне гісторыі і архітэктуры паселішчаў з наступным выданнем «Гістарычнага слоўніка населеных месцаў Беларусі».

У гэтым напрамку праводзяцца некаторыя даследаванні, напрыклад, рыхтуюцца гісторыка-дакументальныя хронікі «Памяць» па кожным раёне, інстытутамі МЭФ і гісторыі АН Беларусі рыхтуецца энцыклапедыя «Гарады і вёскі Беларусі», але ж справа гэтая вядзецца вельмі марудна і не заўсёды кваліфікавана, да таго ж надаецца ўвага ў асноўным толькі існуючым паселішчам.

**Герман БРЭГЕР.**

ЛіМ

Заснавальнікі:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах**
**Друкарня «Беларускі Дом друку».**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.**

Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі:Марыя ГІЛЕВІЧ — 33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця Алесь МАРЦІНОВІЧ — 33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры; Юрась СВІРКА — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жана ЛАШКЕВІЧ — 33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел навін: Віталь ТАРАС — 33-19-65; Юрась ЗАЛОСКА — 33-22-04; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт Уладзімір ПАНАДА — 33-24-62; бухгалтэрыя — 26-86-40.



Нумар падпісаны ў друк 3.12.92 у 18.10.



Індэкс 63856 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Тыраж 18068 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12